ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (129) снежань 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

## Беларуская манахіня на служэнні ў самым “кітайскім” горадзе Расіі


Стар. 8

## Незвычайныя батлейкі


Стар. 10







**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, людзі добрай волі!**

Надзея займае адметнае месца сярод духоўных рысаў чалавека. Бо пакуль яна існуе, мы гатовыя пераносіць нават вялікія выпрабаванні. Таму так важна, каб яна была моцнай. Асабліва зараз, калі свет усё яшчэ стаіць перад выклікам пандэміі, калі між краінамі трывае напружанасць, а спакой застаецца ўсё яшчэ толькі нашай марай.

Сярод гэтага смутку і няпэўнасці зноў чутны кокліч: “Хрыстос нарадзіўся! Славім Яго”! Гэта не проста даніна рэлігійнай традыцыі, афарбаванай святочнай дэкарацыяй, ці спроба забыцца на нейкі час, акунуўшыся ў святочную мітусню. Гэта – вызнанне праўды, з якой бярэ пачатак тая самая надзея, якая трымае нас пры жыцці. Больш за тое, надзея, якая выводзіць нас нават па-за межы зямнога жыцця! Бо “...хто верыць у Мяне, мае жыццё вечнае”! (Ян 6,47).

Наша культура і цывілізацыя моцна закаранёныя ў хрысціянскіх каштоўнасцях. Усё тое лепшае, што сёння маем, так ці інакш звязана з адкрытай нам у Святым Пісанні Божай Мудрасцю, якая знайшла сваё найвышэйшае праяўленне ва ўцелаўлёным Божым Слове. Слове, якое “...сталася целам і пасялілася між намі” (Ян 1,14).

Менавіта Божая Мудрасць заўсёды ратавала чалавека, калі ён быў ёй паслухмяны. І наадварот, клопаты і праблемы ўзнікалі тады, калі гэтая Мудрасць была адкінутай і забытай. Такога досведу мы маем ужо дастаткова.

Паспрабуйма наноў прыняць уцелаўлёнае Слова ў сваё жыццё! Тым больш, што гэтае Слова не патрабуе асаблівага месца і не прэтэндуе на шмат нашага часу. Каб нарадзіцца сярод людзей, Яно не пагардзіла нават стайняй для жывёлаў і было шчаслівым ад хвіліннай увагі простых пастушкоў. Паспрабуйма наноў адкрыць для сябе Божую Мудрасць! Няхай яе стане крыху больш у нашым жыцці!



Нованароджаны Збаўца няхай агорне сваёй ласкай кожнага з вас, усю нашу Краіну і ўвесь свет, каб мы, прызнаўшы над сабой уладу Яго Міласэрнай любові, станавіліся здольнымі самі дзяліцца гэтай любоўю з іншымі!

Здароўя, радасці, спакою і Божага благаслаўлення на ўвесь надыходны 2022 год!

Са Святам!

*+ Алег Буткевіч*
*Біскуп Віцебскі*


Стар. 7

## Беларускія каталіцкія сем’і пра свой Адвэнт-2021


Стар. 14

## Чаму было дзейсным благаслаўленне Якуба?

# Папа Францішак гатовы наведаць Маскву і сустрэцца з Патрыярхам Кірылам

**Дыялог з праваслаўем, ідэалагічная каланізацыя ў ЕС, праблема міграцыі – тэмы, якія пракаментаваў Папа падчас прэс-канферэнцыі на борце самалёта, вяртаючыся 6 снежня з Афін у Рым.**

"Сустрэча з Патрыярхам Кірылам – у недалёкай перспектыве. Верагодна, на наступным тыдні да мяне прыбудзе [Мітрапаліт] Іларыён, каб узгадніць магчымую сустрэчу. Патрыярх павінен здзейсніць падарожжа ў Фінляндыю. Я заўсёды гатовы паехаць у Маскву. "Каб паразмаўляць з братам, непатрэбныя пратаколы", – сказаў Папа, адказваючы на пытанне журналісткі агенцтва ТАСС пра магчымасць яго сустрэчы з Патрыярхам Маскоўскім.

Папа Францішак заўважыў, што падчас візіту на Кіпр і ў Грэцыю ён сустракаўся з прадстаяцелямі мясцовых Праваслаўных Цэркваў. "Мы ўсе браты, і мы кажам усё ў твар, кажам у вочы, але як браты. Гэта цудоўна, калі браты кажуць, што належаць да той жа Маці, да Маці-Касцёла, але сталі падзеленымі. Мы павінны ісці разам і спрабаваць працаваць у адзінстве і дзеля аднінства", – дадаў Пантыфік.

Святы Айцец выказаў перакананасць адносна таго, што трэба працягваць прамыя кантакты і дыялог і "не чакаць тэолагаў". "Тэолагі павінны працягваць даследаванні, бо гэта дапамагае прыйсці да адзінства, але тым часам мы павінны ісці наперад, молячыся разам, займаючыся справамі міласэрнасці. Працаваць і маліцца разам – гэта мы можам рабіць. Адзінства пачынаецца сёння з гэтага", – заключыў Папа.

Каментуючы іншыя тэмы, Папа Францішак назваў анахранізмам нядаўнюю спробу прыняцця Еўракамісіяй унутранай дырэктывы, якая рэкамендавала не ўжываць назву "Божае Нараджэнне". Папа заўважыў, што на працягу гісторыі рабіць падобныя рэчы імкнуліся многія дыктатуры.

На думку Святога Айца, важна вярнуцца да ідэалаў айцоў-заснавальнікаў, а не займацца "ідэалагічнай каланізацыяй", якая можа прывесці да падзелу і краху Еўрапейскага Саюза. Пантыфік адзначыў таксама неабходнасць павагі да адметнасцей і асаблівасцей розных краін ЕС.

Гаворачы пра крызіс дэмакратыі, на які ён звяртаў увагу падчас сустрэчы з грэцкім істэблішментам у Афінах, Папа Францішак падкрэсліў, што "дэмакратыя – гэта скарб цывілізацыі", які павінен быць захаваны. Першай пагрозай для яе, паводле Папы, з'яўляецца папулізм. Ён прывёў прыклад нацысцкай Германіі, дзе папулізм выкарыстоўваўся для абароны нацыянальных каштоўнасцей, а прывёў да задушэння дэмакратыі і ўзнікнення бязлітаснай дыктатуры, ахвярамі якой стала шмат людзей.



Іншай пагрозай для дэмакратыі Пантыфік назваў адмаўленне краін ад сваіх каштоўнасцей, ад уласнай тоеснасці на карысць пэўнага кшталту "імперыі", наднацыянальнага ўраду, міжнародных эканамічных і культурных сіл.

Каментуючы міграцыйную праблему і "моду на ўзвядзенне муроў ці агароджаў з калючага дроту", Папа Францішак заўважыў, што тыя, хто робіць гэта, павінны памятаць пра ўласны гістарычны досвед, калі самі былі мігрантамі і павінны былі ўцякаць. Ён таксама адзначыў важнасць дыялогу адносна таго, колькі мігрантаў зможа прыняць і інтэграваць тая ці іншая краіна.

Пантыфік падкрэсліў, што аўтарамі тэрактаў у Бельгіі ў 2016 г. былі неінтэграваныя мігранты, якія жылі ў сапраўдным "гета". "Прыняць мігрантаў, вырашыць іх праблемы нялёгка. Але, калі мы не вырашым іх, то рызыкуем спрычыніцца да крушэння цывілізацыі", – дадаў Святы Айцец.

*Аляксандр Панчанка*

# Новый апостольский визитатор в Меджугорье



**По волеизъявлению Святейшего Престола апостольским визитатором с особыми полномочиями для прихода Меджугорья назначен монсеньор Альдо Кавалли, до сего дня занимавший должность апостольского нунция в Нидерландах и постоянного наблюдателя от Св. Престола при Организации по запрещению химического оружия.**

На посту апостольского визитатора монсеньор Кавалли стал преемником польского прелата Хенрика Хозера, скончавшегося 13 августа в Варшаве. Новый представитель Папы в Меджугорье родился в Ломбардии в 1946 году, был рукоположен в священники в 1971-м, затем окончил Папскую церковную академию и в 1979 году поступил на дипломатическую службу. Монсеньор Кавалли возглавлял нунциатуры в Сан-Томе и Принсипи, в Анголе, Чили, Колумбии, Ливии, на Мальте и в Нидерландах.

Должность апостольского визитатора носит исключительно пастырский характер и не имеет отношения к вопросу подлинности явлений Пресвятой Богородицы, о которых некоторые молодые люди стали сообщать с 24 июня 1981 года.

В мае 2019 года Папа Франциск благословил паломничества в Меджугорье: теперь епархии и приходы могут организовывать их не только в частном порядке, но и официально.

В августе 2020 и 2021 гг Святейший Отец обращался с посланием к молодежи, собиравшейся на традиционный "Младифест" в Меджугорье, и призывал ее не бояться следовать за Иисусом.

Предшественник монсеньора Кавалли архиепископ Хенрик Хозер утверждал, что Пресвятая Богородица – это самый верный и надежный путь к Иисусу Христу, а в Меджугорье верующие собираются прежде всего для участия в Святой Мессе, в Таинстве Примирения и в поклонении Пресвятым Дарам. По словам монсеньора Хозера, в Меджугорье он встретил поистине "христоцентричный культ".

*Ольга Сакун*

*Старонка падрыхтавана па матэрыялах беларускай і рускай рэдакцый Vatican News*

# Святы Айцец ухваліў дэкрэт аб гераічнасці цнот ацалелай назарэтанкі з Навагрудка

**Папа Францішак ухваліў дэкрэты Кангрэгацыі па справах кананізацыі. Адзін з іх тычыцца прызнання гераічнасці цнот с. Малгажаты Банась – адзінай ацалелай падчас Другой сусветнай вайны назарэтанкі з навагрудскай супольнасці.**

Сястра Марыя Малгажата ад Сэрца Езуса ў Агоніі ў Гетсэманскім садзе (свецкае імя Людвіка Банась) нарадзілася 10 красавіка 1896 г. у Клечы Дольнай каля Вадавіцаў. 15 сакавіка 1917 г. уступіла ў Супольнасць Сясцёр Святой Сям'і з Назарэта. Выконвала звычайныя паслугі ў розных законных дамах: у Вадавіцах, Стрыі, Кракаве, Гродне, Варшаве.

У 1934 годзе была накіравана ў Навагрудак. У часе Другой сусветнай вайны, у 1939-1943 гадах, працавала ў мясцовым шпіталі. Як адзіная сярод дванаццаці сясцёр назарэтанак пазбегла арышту і расстрэлу гітлераўцамі 1 жніўня 1943 г. Сястра Марыя Малгажата адшукала ў лесе месца забойства сясцёр, прысутнічала пры іх эксгумацыі і перазахаванні пры навагрудскай фары.

Сваё ацаленне зразумела як знак волі Божай , як знак таго, што яна павінна застацца ў Навагрудку, каб апекавацца навагрудскім фарным касцёлам і дапамагаць мясцовым вернікам, падтрымліваць у іх сэрцах дух каталіцкай веры.

Навагрудцы называлі сястру Малгажату "ахоўніцаю табэрнакулюма". Яна збірала вернікаў на малітву, упрыгожвала алтары, а калі не было святара, кіравала набажэнствамі. Сястра Малгажата арганізоўвала духоўную і матэрыяльную дапамогу для святароў і свецкіх, сасланых у Сібір. Жыла ў цяжкіх умовах у закрытым фарнага касцёла, нястомна малілася і працавала. Памерла 26 красавіка 1966 года ў Навагрудку. Пахавана на мясцовых могілках.

*Аляксандр Панчанка*



# У Браславе завяршылася зямная вандроўка ксяндза Міхала Сапеля

**14 снежня ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў, роднай парафіі спачылага ксяндза Міхала Сапеля, адбылося жалобнае набажэнства. Разам са Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх біскупаў Беларусі біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам маліліся Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі, Генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі кс. Францішак Кісель, канцлер архідыяцэзіяльнай курыі кс. Дзмітрый Пухальскі і сабраты ў святарстве з розных куткоў Беларусі.**

■ **Марына Сінкевіч**, тэкст; **Леанід Юрык**, фота

Нагадаем, 10 снежня стала вядома, што на 55-м годзе жыцця адышоў у вечнасць ксёндз Міхал Сапель, першы пробашч адроджанай парафіі Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха) на Залатой Горцы ў Мінску, які ў апошні час нёс там служэнне вікарыя. У розны час святар быў душпастырам у парафіях у Ракаве і Заслаўі, дырэктарам ДКТ Caritas Мінск і Беларусь, узначальваў камісію па перакладзе літургічных тэкстаў.

13 снежня адбылося жалобнае набажэнства і святая Імша на Залатой Горцы ў Мінску. Пасля развітання святары вынеслі труну з целам свайго спачылага сабрата са святыні, і жалобны картэж пад развітальны пераразвон касцёльных званоў скіраваўся ў Браслаў.

"З вялікай удзячнасцю Богу за дар жыцця, за дар святарскага паклікання і паслугі Божай Міласэрнасці праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі даручаем душу святой памяці ксяндза Міхала Сапеля. 54 гады жыцця і 31 год святарскай паслугі. Маючы 23 гады атрымаў святарскае пасвячэнне, бо ў той час наша зямля патрабавала святароў. Адразу быў скіраваны ў нашую сталіцу. І ўсё сваё святарскае жыццё працаваў для адбудовы Божага Валадарства", — прамовіў біскуп Алег на пачатку пахавальнай св. Імшы. Біскуп скіраваў словы спачування асабліва маці, якая ахвяравала Богу свайго сына, аддала яго на святарскую паслугу.

"Сёння мы ўглядаемся ў надпіс на крыжы з датамі нараджэння і смерці. Гэтыя 54 гады ў нашым людскім меркаванні - гэта зусім мала. Але якасць жыцця і колькасць гадоў – гэта дзве розныя рэчы. Калі разважаем пра жыццё кс. Міхала, развітваючыся з ім, то мы ўзгадваем жыццярыс гэтага чалавека, узгадваем яго постаць. Можна сказаць, што гады, якія ён пражыў, вельмі багатыя і напоўненыя рознымі падзеямі. Ён стаў перад брамай вечнасці з рукамі, напоўненымі сваімі ўчынкамі. Кс. Міхал нарадзіўся тут, у Браславе, і тут, дзе ўсё пачалося, завяршаецца сёння яго зямная вандроўка", — біскуп Юрый Касабуцкі добра ведаў спачылага і таму распавёў прысутным вернікам пра вельмі насычанае жыццё, пакліканне і служэнне кс. Міхала.

Іерарх заўважыў, што кс. Міхал умеў стварыць такія духоўныя ўмовы, што, дзякуючы яго прыкладу, яго малітве, многія людзі ўмелі распазнаць сваё пакліканне да службы Божай і стаць на шлях падрыхтоўкі да святарства і манаскага жыцця. А цяпер многія з іх бралі ўдзел у жалобных цэлебрацыях як у Мінску, так і ў Браславе, і маліліся за свайго настаўніка па жыцці і духоўнага айца.

Біскуп Юрый Касабуцкі перадаў маці, брату і родным спачылага кс. Міхала спачуванні ад Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Юзафа Станеўскага, арцыбіскупа на пенсіі Тадэвуша Кандрусевіча, біскупа Аляксандра Яшэўскага з Магілёва, аднакурсніка па Рыжскай духоўнай семінарыі біскупа Віталія Скамароўскага з Украіны. Яшчэ іерарх дадаў, што святары Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі расписалі цэлебрацыю Грыгарыянскай святой Імшы ў інтэнцыі кс. Міхала.

Пасля бласлаўлення адбыліся апошнія малітвы каля труны ў касцёле, затым працэсія накіравалася на мясцовыя могілкі ў Браславе, дзе і быў пахаваны кс. Міхал Сапель.





# Адбылося пахаванне ксяндза Чэслава Адамовіча

**2 снежня на 75-м годзе жыцця адышоў у вечнасць ксёндз Чэслаў Адамовіч.**

■ **Алена Пажога**, тэкст; **Леанід Юрык**, фота

3 снежня адбылася пахавальная святая Імша ў касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі ў Параф'янаве, якую цэлебраваў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. На пахавальную цырымонію таксама прыбылі біскуп Юрый Касабуцкі, ксёндз Дзмітрый Пухальскі, святары з суседніх парафій.

Арцыбіскуп Тадэвуш сказаў, што шлях да святарства спачылага ксяндза Чэслава быў няпросты. Святарскую фармацыю ён атрымаў у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбурзе. У 2000-м годзе прыняў святарскае пасвячэнне з рук арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

Ксёндз Чэслаў нёс святарскае служэнне ў каталіцкіх парафіях Калінінградскай вобласці Расіі. Акрамя беларускай, рускай і польскай моваў валодаў таксама і літоўскай.

У 2008-м годзе святар прыехаў у Мінск, дзе да 2013 года быў душпастырам мясцовай літоўскай супольнасці.

Іерарх зазначыў, што яму даводзіцца быць на пахаванні ўжо другога святара, якому ўдзяляў сакрамант святарскага пасвячэння, што развітанне з блізкімі заўсёды балючае, але неабходна глядзець на смерць праз прызму Хрыстовага ўваскрасення. Таксама арцыбіскуп Тадэвуш выказаў занепакоенасць, што ў семінарыі ў Гродне цяпер вучыцца менш семінарыстаў, чым было прынята на першы курс у 1990 годзе, калі яна толькі пачала сваю дзейнасць. Ён заклікаў вернікаў маліцца аб новых пакліканнях да святарства і манаскага жыцця.

Пахаваны ксёндз Чэслаў Адамовіч на вясковых могілках ля вёскі Лісавічы побач з магіламі бацькоў і брата.

# Чаму ў Сярэднявеччы святары насілі чорныя арнаты падчас Адвэнту?

**Нягледзячы на тое, што сучасныя католікі асацыююць фіялетавы колер з Адвэнтам, так было не заўсёды. Насамрэч, на працягу стагоддзяў сярэднявечныя святары падчас Адвэнту часта насілі чорныя арнаты.**

Згодна з кнігай XIX стагоддзя "Нататкі па гісторыі літургічных колераў", чорны літургічны колер выкарыстоўваўся падчас Адвэнту з XII стагоддзя, і гэтая практыка захавалася да XV стагоддзя.

"У часы Папы Інакенція III (1198-1216) чорны колер быў колерам Адвэнту ў Рыме да вечара Божага Нараджэння. Гіём Дзюран, біскуп і кананіст, які жыў праз стагоддзе, згадвае фіялетавы колер, а Радульф з Тонгрэда, гісторык і літургік, які памёр у 1403 годзе, сцвярджае, што ў Рыме ў яго час выкарыстоўваўся чорны літургічны колер. Гэта выразнае сведчанне таго, што чорны і фіялетавы лічыліся літургічнымі сінонімамі".

Падобная практыка не абмяжоўвалася толькі Рымам. Вядома, што чорны літургічны колер ужываўся, напрыклад, у Монтэ-Касіна, а таксама манахамі бэнэдыктынскага ордэна да XVI ст.

Гістарычна чорны колер асацыяваўся з жалобай, пакаяннем і смерцю. Адвэнт разглядаўся як час інтэнсіўнай духоўнай падрыхтоўкі, смерці для сябе, каб мы маглі адрадзіцца на Каляды. Гэта таксама адлюстроўвала ідэю цемры, у якой знаходзіўся свет да прыйсця Езуса.

Выданне The American Ecclesiastical Review 1904 года тлумачыць, чаму чорны літургічны колер пазней быў заменены на фіялетавы.

"Чорны адмаўляе колеры і выказвае смутак. У Святым Пісанні ўсе няшчасці звязаны з ідэяй цемры. Такім чынам, чорны колер у Касцёле стаў сімвалам зла і бяды, як фізічнага, так і духоўнага. Менавіта па гэтай прычыне да XIII стагоддзя ён выкарыстоўваўся ў часы пакут і пакаяння. Але паколькі грэх – адзінае сапраўднае няшчасце ў духоўным жыцці – не выключае святла ласкі, месца чорнага заняў фіялетавы. Чорны ж быў пакінуты ва ўжытку толькі на Вялікую пятніцу".



Фіялетавы колер, які замяніў чорны ў перыяд Адвэнту, па-ранейшаму адлюстроўвае пакаяльны характар таго перыяду, але ён не такі суровы, як чорны.

*Паводле матэрыялаў credo.pro*

*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***

# На Пастаўшчыне пахавалі маці ксяндза Мікалая Ліпскага

**24 лістапада адышла па ўзнагароду да Пана святой памяці Ванда Ліпская – мама кс. Мікалая Ліпскага, пробашча парафіі св. Марыі Магдалены ў Новалукомлі, святара Віцебскай дыяцэзіі.**

26 лістапада за спачылую Ванду маліліся ў касцёле святой Марыі Магдалены ў Новалукомлі, дзе яна пражывала апошнія гады. Ванда Ліпская памерла ва ўзросце 70 гадоў пасля перанесенага захворвання, выкліканага вірусам COVID-19, і пяці тыдняў рэабілітацыі ў лякарні.

На наступны дзень труна з целам была дастаўленая ў касцёл святога Юды Тадэвуша Апостала ў Лучаі, дзе адбылася пахавальная св. Імша, якую канцэлебраваў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч разам са святарамі, што прыехалі падтрымаць свайго сабрата ў святарстве.

Пахавалі св. п. Ванду Ліпскую на могілках у в. Мышкі, што на Пастаўшчыне.

***Леанід Юрык***



# Мінск і Міншчына ў перыяд 23.ІІ.1917 – 18.ІІІ.1921 ва ўспамінах ксяндза Браніслава Усаса

***(Працяг, частка 3)***

**Для ўшанавання палякаў, пераважна чальцоў нашых незалежніцкіх арганізацый, расстраляных расіянамі, я пераканаў улады Мінскай акругі ў неабходнасці раскапаць брацкія магілы расстраляных, сфатаграфаваць гэта, а далей атрымаць ад лекараў пасведчанне аб наяўнасці слядоў катаванняў.**

■ **Пераклад і падрыхтоўка да друку Раісы Зянюк**

Гэтыя работы былі праведзены ў лясах, якія акружалі Мінск, і прынеслі нямала цікавага матэрыялу, як напрыклад, тое, што рукі і ногі расстраляных былі звязаныя калючым дротам. Пасля таго, як здымкі зрабілі, я тут жа пры парэштках адправіў пахавальныя малітвы. Доказам можа служыць фатаграфія, змешчаная ў познанскім штотыднёвіку “Przewodnik Katolicki” ад 15 мая 1921 г. №20, з надпісам пад фотаздымкам “Ксёндз Усас блаславіў памерлых герояў”. На наступны дзень адбывалася ўрачыстае жалобнае набажэнства ў падамініканскім касцёле, а памінальныя прамовы ў гонар расстраляных прамаўлялі пераважна кс. Антоні Александровіч, вайсковы капелан альбо “златавусты прапаведнік” ксёндз-прафесар Эдвард Швейніц – пазней першы рэктар і арганізатар акадэмічнага касцёла Св. Ганны ў Варшаве, на жаль, рана памерлы.

Ксёндз-біскуп Лазінскі да моманту знаходжання асобнага будынка вырашыў, што новапаўсталая Духоўная семінарыя будзе часова размяшчацца ў падамініканскіх памяшканнях, для чаго я вызначыў першы паверх кляштарнага будынку. Перамовы з грамадзянскімі ўладамі аб пабернардзінскім будынку для семінарыі прынеслі пазітыўны вынік 12 лістапада 1919 г. З’явілася рашэнне аб перадачы будынка, у якім пражывала некалькіх праваслаўных манахаў, каталіцкаму духавенству. 18 лістапада ксёндз-біскуп Лазінскі прызначыў камісію для прыёму пабернардзінскага будынка, у склад якой увайшлі ксяндзы Юзаф Зэльба, Андрэй Цікота і Браніслаў Усас. Гэтая камісія ажыццявіла прыём пабернардзінскага будынка ксяндзамі ад праваслаўных манахаў на падставе акта прыёму, тэкст якога я адрэдагаваў, а пасля ён быў прыняты і падпісаны як каталіцкімі святарамі, так і праваслаўным духавенствам, а таксама іераманахам Іларыёнам – прадстаўніком праваслаўных манахаў. Дадаю ўрывак тэксту гэтага дакумента як доказ гуманнага выканання рэвіндыкацыі нашай ранейшай касцельнай уласнасці ад часовых уладальнікаў:

“...Што ж да часу фактычнага пераходу касцёла і кляштара каталіцкім уладам, Камісія пастанавіла наступнае:

а) 6/19 лістапада кс. Цікота, рэктар пабернардзінскага касцёла, займае адно свабоднае памяшканне ў кляштары;

b) 6/19 лістапада а 12 гадзіне пачнецца вынясенне царкоўных рэчаў у адну з незанятых кляштарных келляў у прысутнасці прадстаўнікоў праваслаўнага і каталіцкага бакоў;

c) Келлі, занятыя чатырма [праваслаўнымі] манахамі, павінны быць вызвалены да 21.11./4.12.1919 г.

[Арк. 26]. d) Усе незанятыя келлі адразу пераходзяць у распараджэнне кс. Цікоты.

Заўвага: У выпадку немагчымасці з-за недахопу матэрыяльных сродкаў перамяшчэння манахаў у вызначанае ім іх уладамі месца да вызначанага ім часу да 24.11./7.12.1919 г., іх рэчы павінны быць складзены ў адной з кляштарных келляў, а самі святары з дазволу кс. Усаса – рэктара падамініканскага касцёла – атрымаюць на два тыдні жыллё ў падамініканскіх будынках.

Каталіцкі бок абяцае дапамагчы манахам вывезці іх рэчы з дапамогай машыны”.

Для рэвіндыкацыі пабернардзінскіх будынкаў Саюз Хрысціянскай Дэмакратыі ў Мінску Літоўскім, які складаўся з некалькіх соцен рабочых і інтэлігенцыі, выбраў Камісію ў складзе: ксяндза-рэктара падамініканскага касцёла Браніслава Усаса, Мечыслава Палікоўскага, Паўла Зянковіча і Пятра Крызана, для распрацоўкі пастановы аб вяртанні каталіцкаму насельніцтву Мінска некаторых скасаваных касцёлаў, дамоў і пакляштарных будынкаў. Пастанова ўтрымлівае сціслыя, кароткія звесткі, якія грунтуюцца на гістарычных дакументах, а таксама просьбу аб выкананні гэтай справы не бюракратычным чынам, а маючы на ўвазе патрэбы каталіцкага насельніцтва. Гэтая пастанова ў значнай ступені спрычынілася да паскарэння прыняцця рашэння аб вяртанні католікам пабернардзінскага кляштара, дзе была адкрыта рымска-каталіцкая духоўная семінарыя.


Будынак бернардзінскага касцёла і кляштара
*(выява: spadchina.by)*

У верасні 1918 г. у Мінск прыехала некалькі манахіньбэнэдыктынак, выселеных расійскім урадам падчас эвакуацыі Коўна. Яны часова пасяліліся ў Пецярбурзе, адкуль, аднак, з-за недахопу матэрыяльных сродкаў, а таксама рэвалюцыйных падзей уцяклі ў Мінск з надзеяй, што ім удасца перайсці граніцу і вярнуцца ў Коўна. Я даў ім магчымасць часовага пражывання ў падамініканскіх будынках. Пасля я адправіўся да княгіні Магдалены Радзівіл, уласніцы маёнтка Жарновец – за 18 вёрст ад Мінска – і атрымаў ад яе вілу з пяццю пакоямі, якая, аднак, знаходзілася каля Залатагорскіх могілак. Манахіні з ахвотай пасяліліся на гэтай віле. Са згоды адміністратара дыяцэзіі кс. О’Рурка зрабілі там капліцу і прынялі некалькі чалавек у навіцыят.

Ад моманту атрымання магчымасці сувязі з мацярынскім кляштарам у Коўне яны мелі намер атрымаць дазвол на стварэнне пастаяннай фундацыі сясцёр-бэнэдыктынак у Мінску. Пасля прыходу палякаў у Мінск манахіні выехалі ў Коўна для атрымання канчатковага рашэння. На жаль, рэалізаваць свой намер не [арк. 27] змаглі праз заняцце Мінска Чырвонай арміяй. Дом сясцёр-бэнэдыктынак у Мінску перастаў існаваць.

Кіраванне польскіх уладаў у Мінску, якое прадказвала польскаму насельніцтву бліскучую будучыню, на жаль, прадоўжылася менш за год: ад 8 жніўня 1919 г. да 10 ліпеня 1920 г. Пасля гэтай даты для польскага насельніцтва ў Мінску зноў наступілі смутныя і цяжкія часы. Няўдалае наступленне Пілсудскага на Кіеў выклікала тое, што савецкія войскі ў жніўні 1920 г. апынуліся пад Варшавай. Бітва пад Радзымінам дала магчымасць адкінуць савецкія войскі з нашай тэрыторыі. Польскае войска хоць і заняло зноў Мінск, але ў выніку перамоваў пра часовае перамір’е было вымушана, у адпаведнасці з умовамі, адступіць аж да станцыі Стоўбцы.

Пасля падпісання мірнай дамовы, у адпаведнасці з яе ўмовамі, у Мінску знаходзілася польская дэлегацыя па справах, звязаных з перамір’ем. Я чальцом быў і я як намеснік Упаўнаважанага Польскага Чырвонага Крыжа. Да асноўных маіх абавязкаў належалі пытанні параненых і ваеннапалонных, аказанне ім дапамогі, адведзіны ў шпіталях параненых, а таксама правядзенне перамоваў аб вяртанні палонных на радзіму.

У Мінску я пасяліўся ў гатэлі разам з іншымі чальцамі польскай дэлегацыі і быў тут аж да падпісання 19 сакавіка 1921 г. у Рызе мірнай дамовы з Расіяй. Пасля вяртання ў Польшчу я прадставіў у Галоўным Упраўленні Польскага Чырвонага Крыжа ў Варшаве падрабязную справаздачу аб маёй працы як намесніка Упаўнаважанага Польскага Чырвонага Крыжа за перыяд ад кастрычніка 1920 да 19 сакавіка 1921 г.

Акрэсліваючы кароткую гісторыю справы рэвіндыкацыі будынкаў падамініканскага касцёла ў Мінску Літоўскім, лічу, што для таго, каб прадставіць поўнасцю сітуацыю, неабходна хаця б некалькі словаў сказаць пра ксяндзоў, якія сваёй працай спрычыніліся да таго, каб у перыяд І Сусветнай вайны [і] у 1918–1920 гадах падамініканскі касцёл стаў галоўным цэнтрам рэлігійнага жыцця мясцовага насельніцтва. І, без перабольшвання, быў адным з самых папулярных касцёлаў Мінска. Тут працавалі ксяндзы Эдвард Швейніц, Антоні Александровіч, Юзаф Пільх і Уладзіслаў Каліноўскі.

Маім галоўным супрацоўнікам і дарадцам быў ксёндз Швейніц, тагачасны прафесар Духоўнай семінарыі. У 1914 – 1918 гг ён быў прэфектам школ у Пецярбурзе. Дзякуючы падтрымцы некалькіх заможных палякаў, у тым ліку перадусім Францішка Скомпскага, ён змог купіць дом графа Рыбап’ера ля вуліцы Крукаў Канал, у якім заснаваў студэнцкі інтэрнат. З часам гэты дом стаў галоўным цэнтрам працы сярод каталіцкай студэнцкай моладзі ў Пецярбурзе.

У 1918 г. кс. Швейніц вярнуўся ў Мінск, адкуль быў родам, і пасля маёй прапановы пасяліўся пры падамініканскім касцёле. Тут ён заснаваў новае таварыства для студэнцкай моладзі пад назвай Juventus Christiana, якое да сённяшняга дня існуе і развіваецца ў некаторых універсітэцкіх цэнтрах Польшчы.

Па ініцыятыве кс. Каліноўскага кс. Швейніц спрычыніўся да арганізацыі некалькіх груп з вучняў і вучаніц сярэдніх школ, якія пачалі клапаціцца пра адзінокіх людзей пажылога ўзросту і часта вельмі хворых. Падамініканскі касцёл вёў картатэку людзей, якія патрабавалі дапамогі. Такіх людзей, якіх па даручэнні ксяндза моладзь наведвала штодзённа, налічвалася да сарака. Агульная ж колькасць тых, хто патрабаваў апекі і дапамогі, і тых, якім дапамагаў касцёл прынамсі раз на тыдзень, даходзіла да васьмідзесяці. Лекарскую дапамогу гэтым людзям аказвала група маладых медсясцёр пад кіраўніцтвам Марыі Верліжанкі, якая адначасова выконвала абавязкі кіраўніка швейнай майстэрні пры тым жа касцёле.


**кс. Андрэй Цікота**
*(фота krynica.info)*


**Магдалена Радзівіл**

Пра працу кс. Антонія Александровіча і кс. Юзафа Пільха я ўжо казаў раней, таму цяпер успомню толькі пра кс. Уладзіслава Каліноўскага – роднага брата айца Рафала, вядомага аднаўляльніка кармеліцкага жыцця ў Польшчы.

Кс. Уладзіслаў Каліноўскі, будучы ўжо ў сталым узросце, раней пастаянна пераследаваны расійскімі ўладамі, быў, аднак, чалавекам нязломленай энергіі, ініцыятывы і вытрымкі. Дзякуючы асабістай бескарыснасці змог атрымаць сістэматычную дапамогу ад некалькіх заможных зямянскіх сем’яў, выкарыстоўваючы ўсе гэтыя сродкі на патрэбы хворых і адзінокіх.

Я згадваю пра гэтую працу ксяндзоў Швейніца і Каліноўскага яшчэ і таму, што работа, якая імі вялася, ніколі дагэтуль не рабілася ў такіх памерах у аніводным касцёле на Міншчыне.

***

На гэтым успаміны пра “мінскі перыяд” заканчваюцца.

Зацікаўленых спадчынай кс. Усаса даследчыкаў чакаюць яго зборы ў бібліятэцы Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта імя Яна Паўла ІІ.

# Як у 1931 годзе асвячалі касцёл у Крулеўшчыне

## *Па старонках старых газет*

**На старонках старых газет можна знайсці шмат цікавых звестак пра мінулае нашага краю, пра тое, што адбывалася тут многія дзесяцігоддзі таму. І кароткія ўрадавыя і паліцэйскія зводкі, і тэксты прафесійных рэпарцёраў і публіцыстаў, і асабліва карэспандэнцыі жыхароў правінцыі дапамагаюць стварыць карціну таго, што адбывалася раней у гэтым краі.**

**■ Кастусь Шыталь**



**Касцёл у Крулеўшчыне перад урачыстасцю асвячэння.1931г.**
*Фота са збораў Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва.*

На старонках старых газет можна знайсці шмат цікавых звестак пра мінулае нашага краю, пра тое, што адбывалася тут многія дзесяцігоддзі таму. І кароткія ўрадавыя і паліцэйскія зводкі, і тэксты прафесійных рэпарцёраў і публіцыстаў, і асабліва карэспандэнцыі жыхароў правінцыі дапамагаюць стварыць карціну таго, што адбывалася раней у гэтым краі.

Калі паглядзець, што пісала дзевяноста гадоў таму віленская штодзённая газета "Słowo", то ў нумары 229 за 6 кастрычніка 1931 года можна знайсці апісанне ўрачыстага асвячэння касцёла ў Крулеўшчыне. Але перш чым даць слова рэпарцёру "Słowa", коратка апішу гісторыю ўзнікнення Крулеўшчыны і ўзнікнення ў Крулеўшчыне каталіцкай парафіі.

Назва "Крулеўшчына" вядзе сваю гісторыю ад шэрагу засценкаў – невялікіх паселішчаў сялянаў або дробнай шляхты, якія знаходзіліся на прасторах паміж вёскамі Літоўцы і Верацеі і ў дакументах канца XVIII – сярэдзіны XIX стагоддзя называліся "Хрулеўшчына" або "Хрулі". Менавіта так – "Хрулеўшчына, засценкаў восем" – называецца гэтая мясцовасць у апісанні Докшыцкай парафіі ў 1784 годзе. Назва, відавочна, паходзіць ад прозвішча або мянушкі Хруль.

Расійскія картографы, складаючы ў 60-я гады XIX стагоддзя тапаграфічную карту, памылкова падпісалі адзін з тых засценкаў "Крулевщизна". У пачатку XX стагоддзя, падчас будаўніцтва стратэгічнай тысячакіламетровай Балагое-Сядлецкай чыгункі, гэтая назва трапіла на вочы камусьці з інжынераў, і яе прысвоілі пабудаванай недалёка станцыі. У 1914 годзе расійскія ўлады перайменавалі станцыю "Крулеўшчына" ў "Сеславіна" ў гонар расійскага генерала.

У жніўні 1919 года гэтую мясцовасць занялі польскія войскі. Станцыі была вернутая старая назва, але ўжо ў польскім гучанні: "Królewszczyzna" – "Круляўшчызна". Стаў пашыраным гістарычны міф, што дадзеная назва паходзіць ад уладанняў колішніх каралёў Рэчы Паспалітай (тэрмінам "круляўшчызна" ў Рэчы Паспалітай сапраўды называлі каралеўскія маёнткі). Некаторыя звязвалі назву з асобай Стэфана Баторыя, які ў 1579 годзе праз Глыбокае ішоў вызваляць Полацк ад Івана Грознага.

Пасля 1919 года ў Крулеўшчыну, якая стала стратэгічна важным чыгуначным вузлом, было прыслана на працу шмат чыгуначнікаў з іншых рэгіёнаў, у тым ліку з Цэнтральнай Польшчы. Яны былі пераважна каталікамі па веравызнанні. Таму пільнай стала патрэба заснавання касцёла ў Крулеўшчыне. Быў час, што святар прыязджаў і служыў Імшу проста ў будынку вакзала. Пасля абсталявалі пад капліцу адзін з будынкаў побач з вакзалам. У 1928 годзе заснавалі камітэт будаўніцтва касцёла, які праз тры гады скончыў сваю справу. Галоўная роля ў будаўніцтве касцёла належала мясцовым чыгуначнікам, а частку сродкаў на будоўлю дало Міністэрства камунікацыі.

У нядзелю, 4 кастрычніка 1931 года, а сёмай гадзіне раніцы з віленскага вакзала рушыў адмысловы цягнік, пасажырамі якога былі віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, дырэктар дзяржаўных чыгунак інжынер Казімір Фалькоўскі, святары, чыгуначныя чыноўнікі, артысты і журналісты. Сярод іх – рэпарцёр "Słowa", які апісаў падзеі ў Крулеўшчыне, падпісаўшыся крыптонімам W. T.

"Крыху па адзінаццатай гадзіне – піша W. T., – мы на месцы. На пероне – узброеная рота вайсковай падрыхтоўкі чыгуначнікаў Крулеўшчыны са штандарам і аркестрам (штандар і аркестр з Вільні). Старшыня Фалькоўскі прымае даклад, праходзіць перад строем, вітаецца з чыгуначнай браціяй, пасля чаго цягнік рушыць крыху далей, затрымліваецца насупраць новапабудаванага касцёла.

Ідзе дождж, моцны вецер яшчэ больш пагаршае сітуацыю. Нягледзячы на гэта, натоўпы чакаюць архіпастыра перад трыумфальнай брамай. Дэлегацыя вітае яго хлебам і соллю. Выходзім алейкай, якая абсаджаная ялінкамі, да касцёла. Яго Эксцэленцыя ідзе пад бальдахінам, які нясуць чыгуначнікі.

Пры ўваходзе ў касцёл сустракае Яго Эксцэленцыю мясцовы пробашч кс. Шадбэй і параф'янаўскі дзекан кс. Тэжык. У касцёле ўжо так цесна, што нашай немалой грамадцы гасцей з немалой цяжкасцю ўдаецца трапіць усярэдзіну. Праход, зроблены для архіпастыра, займаецца адразу пасля яго праходу. Парафіяне, якія тут сабраліся, відаць, лічаць, што ім належыць большае права быць на гэтым першым, урачыстым набажэнстве ў іх уласнай святыні. Іх уласнай, бо яны яе збудавалі. Аркестр і хор падымаюцца наверх.

Яго Эксцэленцыя асвячае касцёл, абыходзячы стацыі Панскай Мукі, пасля чаго выступае з прамовай, падкрэсліваючы вялікае значэнне гэтай святыні, а таксама заслугі ўсіх тых, праз чые сродкі і старанні паўстаў,



Чыгуначнікі Крулеўшчыны на фоне вакзала. 30-я гады XX стагоддзя

на хвалу Пана на Нябёсах, гэты касцёл.

Пасля акту пасвячэння ксёндз-канцлер Савіцкі разам з ксяндзамі Матулевічам і Юдыцкім адслужылі Імшу. Падчас яе квартэт [спевакоў з "Агменя" чыгуначнікаў з Вільні] выконвае шэраг песень. З хораў вясковага касцёлка льюцца мелодыі рэлігійных твораў Шапэна. Чутно акампанемент струннага квартэта пад кіраўніцтвам Юзвяка.

Узнімаюцца галовы тых, хто моліцца. Вочы поўныя здзіўлення і захаплення. Многія з іх не чулі дагэтуль такіх прыгожых спеваў і такіх прыгожых галасоў.

Набажэнства скончанае. Яго Эксцэленцыя разам з госцьмі ідзе ў "Агмень" на абед, які падрыхтавалі мясцовыя чыгуначнікі.

Дождж зацята лье, страшны холад, таму з думкай пра талерку гарачага супу мы хутчэй крочым па гразі, якая месцамі нейтралізаваная вузкім драўляным ходнікам. Падчас вельмі смачнага абеда (адмысловая падзяка тут належыць гаспадыням з Крулеўшчыны) было сказана некалькі прамоваў. Першы ўзяў голас віцэ-старшыня камітэта будаўніцтва касцёла інжынер Швэнгрубэн.

З прамовы мы даведваемся дэталі гісторыі будаўніцтва касцёла. З прычыны таго, што ранейшая капліца не магла змясціць усіх парафіянаў, у 1928 годзе было вырашана будаваць касцёл. Праект быў прапанаваны, а потым рэалізаваны мясцовымі чыгуначнікамі. Яны энэргічна ўзяліся за працу. Сабраная неабходная для пачатку будаўніцтва сума, але толькі ў маі гэтага года пачалося будаўніцтва падмуркаў. Усё насельніцтва Крулеўшчыны прыняло актыўны ўдзел у працах, пераносячы будаўнічы матэрыял, капаючы траншэі пад падмуркі і г. д.

Кошт будаўніцтва дасягнуў 21800 злотых. Гэтую суму склалі: 5000 злотых – дапамога Міністэрства [камунікацыі], 5660 злотых – складкі чыгуначнікаў, 2345 злотых – складкі прыватных асобаў, 100 злотых – Мітрапаліцкая Курыя, 570 злотых – працэнты ад сумаў, пакладзеных у банку. Застаўся доўг у суме 6900 злотых.

Яго Эксцэленцыя арцыбіскуп сардэчна падзякаваў чыгуначнікам за заснаванне гэтай духоўнай крэпасці, якая цяпер ёсць апорным пунктам каталіцкай грамадскасці. "Няхай жывуць чыгуначнікі і іх шляхетная, ахвярная справа", – скончыў сваю прамову ксёндз-арцыбіскуп.

Пасля абеду прысутныя пайшлі на вакзал, дзе іх чакаў цягнік старшыні Фалькоўскага. Праз чатыры гадзіны цягнік спыніўся ўжо на віленскім вакзале".

* * *

Аўтар гэтага рэпартажа, які працытаваны з невялікімі скарачэннямі, не ведаў, што праз няпоўныя восем гадоў – у верасні 1939 года – у Крулеўшчыну ўвойдуць савецкія войскі. Многія з чыгуначнікаў, якія пабудавалі касцёл, трапілі пад арышты і высылкі, а іншыя пераважна выехалі ў Польшчу. Касцёл быў зачынены ў 1947 годзе. У 1964 годзе – разабраны. Яго падмурак з магутных камянёў да сённяшняга дня стаіць у Крулеўшчыне. На месцы алтара пастаўлены жалезны крыж.



**Рамуальд Ялбжыкоўскі, віленскі арцыбіскуп**



**Кіраўнікі чыгуначных падраздзяленняў у Крулеўшчыне. У цэнтры – інжынер Баляслаў Швэнгрубэн, кіраўнік дарожнага аддзела і адначасова віцэ-старшыня камітэта будаўніцтва касцёла**



**Чыгуначнікі Крулеўшчыны каля будынка "Агменя" Чыгуначнай вайсковай падрыхтоўкі.**
*Фота з сямейнага архіва Крыстыны Кучыньскай*

# Ребенка подменили: почему хорошее поведение в детском саду сменяется плохим поведением дома

**Ребенок в саду, школе, на кружке или в спортивной секции ведет себя хорошо. Он внимателен, аккуратен, спокоен и проявляет дружелюбие. Но все кардинально меняется, когда он приходит домой: слезы, крики, злость и неконтролируемое поведение. Такие ситуации не редкость, и недоумевающие родители порой задаются вполне логичным вопросом: "Нормально ли это?" Спешу сказать, что да, это нормально. И поддается объяснению.**

■ **Марина Ткач**, *психолог*

А теперь давайте по порядку. Для начала скажу, что в психологии детско-родительских отношений есть одно правило: ребенок ведет себя хуже всего именно с теми, с кем у него наиболее близкие и доверительные отношения. Поэтому такому поведению стоит не огорчаться, а даже наоборот – радоваться. Ведь это значит, что вы создали здоровые отношения, тот самый базовый уровень доверия между собой и ребенком.

В чем же суть резкого изменения поведения ребенка после детского сада или школы?

Подобное изменение называется "эмоциональный коллапс из-за перенапряжения".

По словам специалистов, этот коллапс происходит из-за того, что дети целый день держат себя в руках, и только к вечеру, оказавшись дома, могут проявить свои настоящие эмоции. Дети по-разному могут вести себя в такой ситуации: кто-то из них становится плаксивым, кто-то начинает кричать и ругаться, а кто-то становится неуправляемым. Дети более старшего возраста могут грубить, обзываться и хамить. Но может быть и противоположная реакция. Ребенок может стать очень тихим, замкнутым, апатичным.

Для того, чтобы вам было проще понять суть эмоционального состояния ребенка, который, вернувшись из детского сада, горестно разносит квартиру, плачет и истерит, вспомните взрослых, которые приходят домой после тяжелого рабочего дня и срываются на домочадцев, тем самым выплескивая все накопившиеся за день эмоции. С детьми также, это своего рода эмоциональное реагирование на прожитой день. Только вот у взрослых оно вызывает куда больше вопросов и опасений, потому что мы не привыкли к тому, что наши дети такие же, как мы.

Откуда берется это перенапряжение?

В детском саду или школе дети обычно делают то, что от них требуется, чтобы "быть хорошими" или сохранять хорошие отношения с окружающими. И после того, как дети занимаются этим целый день, наступает тот момент, когда они просто уже не в состоянии сдерживать напряжение, которое вот-вот прорвется. Необходимость соответствовать определенным правилам и нормам, принятым в детском саду или школе, а также решение множества задач – образовательных, социальных и эмоциональных, – да еще и без присутствия и участия родителей, отнимает у ребенка все силы.

Отмечу, что переутомление не единственная причина эмоционального коллапса после сада или школы. Иногда к этому причастно и то, что психологи называют "защитным отчуждением". Что это значит? Ваш ребенок очень нуждался в вас, а вас с ним не было. Теперь вы рядом, но изначальная волна облегчения растворяется в целом шторме защитного отчуждения: ребенок злится и отстраняется от вас.

Еще одна причина – мимикрия, автоматическое хамелеонство малыша. С приходом домой меняется система координат, требований и эмоциональных ожиданий и соответственно ребенку нужна другая система реакций на поведение и слова. У него какое-то время включается своего рода стопор, пока одновременно работают две системы координат. Поэтому он теряется, не знает, как себя вести. Одна из возможностей выйти из этой растерянности – провокативное поведение. Все происходит не на уровне осознавания, это просто поведенческий сбой.

Что можно сделать, чтобы уменьшить эмоциональный коллапс?

Предоставьте ему возможность выпустить пар и окажите посильную поддержку. Пока ребенок кричит, кидается и в целом сходит с ума, будьте рядом и просто спрашивайте его: "Сегодня был длинный день, да?" или говорите: "Я рядом". Безусловно, это непросто, но стоит того, чтобы попробовать.

Придумайте какое-то вечернее занятие, которое будет помогать ребенку сбросить стресс и успокоиться. Это может быть пешая прогулка, езда на велосипеде, игра в "щекотки", танцы под музыку или, наоборот, что-нибудь спокойное, вроде чтения или собирания пазлов. Такой ежедневный сеанс расслабления может войти в ваш привычный распорядок дня и стать способом, который поможет и вам, и вашему ребенку избавиться от сильных эмоций, накопившихся за день.

Возьмите за правило встречать ребенка из детского сада с улыбкой. Позитивно встречайте его после сада или школы, делайте это с улыбкой и объятиями, а не расспрашивайте сразу о поведении и о домашних заданиях, отметках.

Возьмите тайм-аут. Если вы едете в машине, просто включите радио и помолчите. Если вы идете пешком, не старайтесь много говорить, или просто обсуждайте то, что замечаете по дороге. Это не время для больших разговоров.

Предложите перекусить. Так же, как и взрослые, дети становятся раздражительнее, когда они хотят есть. Забрав ребенка из сада или школы, покормите его до того, как он об этом попросит или начнет скандалить. Даже если его кормили в саду, это не значит, что он не может быть голоден.

Будьте рядом. Психологи советуют отправить себя в сад вместе с ребенком. Конечно, не буквально, но сделать так, чтобы он ощущал ваше присутствие и связь с вами, даже когда вас нет рядом. Напишите ему милую записку и положите в карман рюкзака, дайте ребенку с собой какую-то маленькую игрушку или аксессуар, который будет напоминать о вас. Если в течение дня ребенок



будет ощущать ваше присутствие и поддержку, он будет чувствовать себя менее уязвимо и беззащитно, а в конце дня станет меньше злиться из-за того, что вас не было рядом.

Уделяйте внимание. По возможности постарайтесь уделить внимание ребенку не только после того, как он вернется из сада, но и до этого, например, во время утренних сборов. Поставьте будильник 15 минут раньше привычного времени и используйте эти четверть часа для того, чтобы пообниматься или почитать книжку, просто сделайте вместе что-то, пропитанное духом единения и любви.

Дайте ребенку понять, что дом – это безопасное место, где его всегда поймут и поддержат, несмотря на его усталость и "плохое" поведение.

Ваш ребенок прожил целый день, решая проблемы и справляясь с самыми разными задачами, а вас все это время не было рядом. И хотя бурная эмоциональная реакция может показаться непредсказуемой и нелогичной, просто примите тот факт, что так ребенок избавляется от напряжения и сильных эмоций. И он сейчас как никогда нуждается в вашей любви и поддержке.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, парафіяне з Дзеркаўшчыны, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Марыя Юрашык** *(Павяцце)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Лёнгіна Астаноўка** *(Атокі)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Сіманенак Т.** *(Паставы)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Ніна Алексніна** *(Браслаў)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вашкель Р.М.** *(Дворнае Сяло)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Салаўёва Н.Н.** *(Дворнае Сяло)*, **Іван Кулік** *(Мікелеўшчына)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Ядвіга Будзіч** *(Буеўшчына)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Марыя Мажэйка** *(Варапаева)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Алег Галіна** *(Вайнюнцы)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Дулінская Т.І** *(Вазоўнікі)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Браніслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Марыя Канецкая** *(Маладзечна)*, **Часлаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Леакадзія Лаўнюжонак** *(Новыя Габы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Ніна Марунько** *(Навалукомль)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Сафія Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Ванда Сакові** *(Мосар)*, **Тэрэса Міцкевіч** *(Мальшучына)*, **Аляксандр Пучынскі** *(Глыбокае)*, **Яніна Скаўронская** *(Луцк-Масарскі)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Людміла Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Ніна Васеха** *(Наваполацк)*, **Давыдзенак Л.П.** *(Усцье)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Віталь Ракуцкі** *(Браслаў)*, **Валерый Ракуцкі** *(Браслаў)*, **Елізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Ганна Лаўнікоўская** *(Лучай)*, **Ірына Ядзевіч** *(Паставы)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Ядвіга Бруйко** *(Сталіца)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Анэля Кашкур** *(Павяцце)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Вярцінская М.Б.** *(Вярцінскія)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Данута Голубева** *(Бабінавічы)*, **Марыя Сяліцкая** *(Параф'янава)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Марыя Талапіла** *(Зорка)*, **Святлана Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Валянціна Курта** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Ванда Усціновіч** *(Януковічы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Уладзіслаў Касяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Цімафеева О.М.** *(Янкавічы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Трайко Я.** *(Карасіна)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Адвэнт - 2021 у беларускіх каталіцкіх сем'ях

**Адвэнт з'яўляецца вельмі добрай нагодай для ўмацавання сям'і. Як выкарыстоўваюць час Адвэнту каталіцкія сем'і і як разам рыхтуюцца да Божага Нараджэння, чытайце ў сённяшнім апытанні "Каталіцкага Весніка".**

**Максім і Вольга Радзюшы (адказвае Вольга):**

– Нашай сям'і пяць гадоў. Мы з мужам абодва каталікі. Маем двух сыноў: Андрэя (чатыры гады) і Станіслава (адзін год). Для нас Адвэнт – гэта час, калі мы асаблівым чынам рыхтуемся павіншаваць Езуса з Днём Нараджэння. А як падарунак рыхтуем Яму нашыя сэрцы.

Старэйшы сын рэпеціруе ў падарунак спеў і імкнецца да Раства навучыць малодшага брата спяваць. Раней звычайна мы маліліся ўсёй сям'ёй перад крыжам. Але на Адвэнт 2019 года нам падарылі прыгожую святочную свечку. З таго моманту падчас Адвэнту молімся з гэтай свечкай. Такім чынам, старэйшы сын ужо ведае, што наступіў важны перыяд.

**Віталь і Вольга Заянчкоўскія (адказвае Вольга):**

– Адвэнт – асаблівы час для нашай сям'і. Час прыпыніцца, задумацца, ацаніць усё, што адбылося за год. Падчас Адвэнту мы стараемся захоўваць пост, больш молімся. Разам з дачкой і мужам наведваем ранішнія набажэнствы. Наша шасцігадовая дачушка вельмі любіць гэтыя Імшы, сама прыдумвае ідэі раратняй свечкі. Таксама мы з мужам робім каляндар на Адвэнт з рознымі заданнямі. Дачка з задавальненнем выконвае іх, з нецярпеннем чакае наступнага дня. Для нас з мужам гэта яшчэ і час стаць бліжэй, адкінуць штодзённыя справы, пабыць разам. Хоць у шлюбе мы ўжо сем гадоў, аднак стараемся падтрымліваць дашлюбную рамантыку, цікавасць да справ адно аднаго. За Адвэнт імкнёмся падрыхтавацца да святаў, прыступіць да споведзі. Такое ўнутранае ачышчэнне дапамагае яшчэ больш зблізіцца. Не забываемся і пра знешні бок: упрыгожваем дом, ставім елачку, рыхтуем аплаткі і спіс страў на вігілійны стол. Для нас Адвэнт – час вялікай надзеі і чакання прыходу Збаўцы.

**Сяргей і Кацярына Раюнцы (адказвае Кацярына):**



– У шлюбе мы сёмы год, абодва – каталікі-практыкі. Нашаму сыну Марку тры з паловай гады. Як і для ўсіх вернікаў, Адвэнт для нас у першую чаргу – падрыхтоўка свайго сэрца да сустрэчы з нованароджаным Збаўцам. Кожны з нас бярэ на час Адвэнту асабістыя пастановы, але таксама мы выбіраем нешта, над чым будзем працаваць усёй сям'ёй. У гэтым годзе мы будзем рыхтавацца з дапамогай Адвэнт-календара "Беларусь чакае Раство". Там будзе план чытання Слова Божага на кожны дзень, а таксама будуць цікавыя заданні. Акрамя малітвы і пастановаў, мы кожны год робім нейкія творчыя рэчы разам: перакладаем спевы на беларускую мову, запісваем калядны альбом, здымаем калядныя кліпы. У гэтым годзе робім распісную стаенку. І, канешне, шмат слухаем калядная музыкі, спяваем, танчым, пячом імбірныя пернікі (з кожным годам яны атрымліваюцца ўсё смачнейшыя).



**Айцец Аляксей і Святлана Варанко (адказвае а. Аляксей):**

– Некалькі слоў пра сям'ю... Мы грэка-каталікі, я святар. У шлюбе ўжо шаснаццаць гадоў. Маем чацвёра дзяцей (Вера – пятнаццаць гадоў, Любоў – трынаццаць гадоў, Глеб – восем гадоў, Надзея – два годзікі). Час падрыхтоўкі да Раства штогод перажываем па-рознаму. Заўсёды дзеці чакаюць падарункаў. Важнай часткай з'яўляецца святы вечар, калі мы збіраемся разам на посны стол, а пасля ўдзельнічаем у святочнай літургіі. Мы з жонкай не вельмі канцэнтруемся на знешніх рытуалах, напрыклад, колькі мусіць быць страў і г.д. Мы дастаткова спантанныя, і часам у нас няма канкрэтных планаў на Адвэнт і на Раство... Можам, напрыклад, сядзець дома і нечакана вырашыць пайсці ў госці да сяброў. Так проста, у апошнюю гадзіну, без лішніх фармальнасцяў. Сёлета мы таксама пакуль не ведаем, дзе сустрэнем радасць Божага Нараджэння. У гэтым, пэўна, мы падобныя да Святой Сям'і. Хрыстос дакладна народзіцца, але ў якім месцы, – невядома. Для мяне важна быць са сваімі блізкімі, а дзе – Бог пакажа. Таксама вельмі важна, ці ёсць у нашай сям'і любоў, згода, ці можам мы слухаць і чуць адно аднаго, прасіць прабачэння. Бо Хрыстос прыйшоў, каб прынесці мір і знішчыць усялякую перашкоду паміж людзьмі.

**Аляксей і Святлана Жылевічы**



**(адказвае Святлана):**

– Мы сужэнцы ўжо адзінаццаць гадоў. У нашай каталіцкай сям'і трое дзяцей: Мацвей-Аўгусцін (восем гадоў), Міхаліна (пяць гадоў), Ян (тры гады). Для нашай сям'і Адвэнт – гэта час чакання і падрыхтоўкі да свята Божага Нараджэння. Гэта прыгожы перыяд, напоўнены мноствам традыцый, якія і мы практыкуем у сваёй сям'і. Да Адвэнту звычайна вырабляем вянок з чатырма свечкамі, якія запальваем падчас штодзённай вячэрняй малітвы. Дзеці вельмі любяць гэты момант, ахвотней збіраюцца на малітву і па чарзе задзьмухваюць свечку. Таксама рыхтуем Адвэнтавы каляндар з заданнямі на кожны дзень: удзел у ранішняй Імшы, малітва ў пэўных інтэнцыях, чытанне Бібліі, спяванне каляд, размалёўкі, упрыгожванне дома і ялінкі, развучванне калядак – заданні нібыта для дзяцей, але яны аб'ядноўваюць усіх нас. За выкананае заданне дзеці атрымліваюць наклейкі ў выглядзе сэрцаў і збіраюць іх у мяшочак у якасці падарунка для нованароджанага Езуса. Стараемся ўдзельнічаць хоць бы па чарзе ў ранішніх раратніх Імшах (старэйшы сын ходзіць на рараты з чатырох гадоў). Такія традыцыі дапамагаюць глыбей асэнсаваць урачыстасць Божага Нараджэння і больш часу прысвяціць малітве. Спадзяёмся, што так атрымаецца зрабіць і ў гэтым годзе.

**Аляксей і Іна Яновічы (адказвае Іна):**

– Нашай сям'і ўжо адзінаццаць гадоў. Мы з мужам абодва католікі. У нас адна дачка – Паліна, ёй дзевяць гадоў. Адвэнт для нашай сям'і – гэта час, напоўнены верай, малітвай і любоўю, калі мы чакаем нараджэння Езуса. Распачынаем гэты перыяд заўсёды малітвай на пачатак Адвэнта. Таксама робім сабе такія пастановы, якія набліжаюць нас да Бога. Сёлета, напрыклад, мы адмовіліся ад гульняў на смартфоне і ад непатрэбных пустых размоў па тэлефоне. А ў той вольны час, які з'явіўся, можна пачытаць Слова Божае ці памаліцца. А можна проста ў цішыні падумаць пра сваё духоўнае жыццё. Адвэнт – выдатная магчымасць сумленна зазірнуць у самыя цёмныя куткі сваёй душы.

Падчас Адвэнту мы ўдзельнічаем у раратняй святой Імшы. З вялікай ахвотай наша дачка таксама прымае ў ёй удзел, трымаючы ў руках запаленую свечку. Стараемся прысутнічаць на ўсіх набажэнствах, якія праходзяць у гэты перыяд, на рэкалекцыях.

А яшчэ мы робім Адвэнт-каляндар з інтэнцыямі і разважаннем над Словам Божым. А каб дзіцяці было цікава, пасля малітвы і разважанняў яна атрымлівае салодкі падарунак. У гэтым годзе мы зрабілі яловы вянок з чатырма свечкамі, якія па чарзе будзем запальваць на кожную нядзелю Адвэнту. Ужо бліжэй да Калядаў мы збіраем таксама падарунак для малечы з дзіцячага дома.

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***

## Жартуюць святары

**Як казаў святы Аўгусцін, "для хрысціяніна радасць – гэта абавязак". Прапануем Вам, дарагія чытачы "Каталіцкага Весніка", крыху парадавацца і ўсміхнуцца разам у новай рубрыцы "Жартуюць святары". У кожным нумары духоўныя асобы будуць дзяліцца з Вамі цікавымі камічнымі і смешнымі гісторыямі, жартамі і анекдотамі!**

**Жартуе ксёндз Кірыл Бардонаў:**

На Імшы з удзелам дзяцей святар пытаецца ў малых:

– Дзеці, чаму Езус не выканаў просьбу апосталаў Якуба і Яна сесці праваруч і леваруч ад Яго ў Божым Валадарстве?

– Бо не трэба быць нахабнымі!

Пасля Божага Нараджэння ксёндз адведвае парафіян па калядзе. Падымаецца па лесвіцы ў пад'ездзе і чуе за дзвярыма кватэры дыялог мужа і жонкі:

– У нас няма асвечанай вады для пасвячэння кватэры.

– Давай нальём звычайную.

Святар уваходзіць. Падышоўшы да місы з вадой, пытаецца:

– А яна асвечаная?

– А што, гэта можна адчуць?

Ксёндз распавядае школьнікам, як Бог стварыў свет за шэсць дзён. Потым звяртаецца да аднаго з вучняў:

– Андрэй, а што Бог рабіў у сёмы дзень?

– Пайшоў на Імшу ў касцёл.

Разгневаная маці звоніць катэхетцы з пытаннем:

– Чему Вы учите детей? Сын сказал, что в костеле ему пояснили, что, когда люди делают добрые дела, Иисус чешется.

– Цешыцца, Ён цешыцца.

На катэхезе хлопчык пералічвае Божыя Запаведзі:

– Не май іншых багоў апрача Мяне.... Не пажадай жонкі бліжняму тваіму.

Плакат пра музычны канцэрт на касцельнай дошцы аб'яў:

"Не ўяўляеш як будзе ў пекле? Прыйдзі і паслухай нашага арганіста".

# Беларуская манахіня расказала пра служэнне ў самым “кітайскім” горадзе Расіі

**Сястра Аўгустына Дакуцька родам з Лагойска. Апошнія чатыры гады манахіня працуе ў Благавешчанску. Гэты горад знаходзіцца на беразе ракі Амур, па якой праходзіць мяжа Расіі з Кітаем. У сённяшнім нумары дамініканка расказвае “Каталіцкаму Весніку” пра сваё жыццё і служэнне на Далёкім Усходзе.**

**– Сястра, Вы нарадзіліся ў сям’і вернікаў ці прыйшлі да Бога ўжо самастойна?**

– У маёй сям’і моцная вера была ў бабулі па мамінай лініі. Тата не быў вернікам. Васямнаццаць гадоў ён не мог зміліцца з тым, што я стала сястрой. У нашай сям’і чацвёра дзяцей: я, дзве малодшыя сястры-двайняты і старэйшы брат. У касцёл першымі пачалі хадзіць мае сёстры. Калі я пыталася, адкуль яны ідуць такія радасныя, дзяўчаты адказвалі, што з касцёла. Іх радасць была такой сапраўднай і натуральнай! Аднойчы я спытала: “Мне можна пайсці з вамі?” На што яны адказалі: “Канешне”. Так я пачала хадзіць у касцёл. Мне было тады каля шаснаццаці гадоў.

**– Чаму Вы выбралі менавіта дамініканскі ордэн?**

– Упершыню сясцёр-дамініканак я пабачыла ў Мінску на Залатой Горцы. Мяне ўразіла іх праца з людзьмі, асабліва адносіны да іх. Яны не бачылі ніякай розніцы паміж багатымі і беднымі, здольнымі і няздольнымі. Працавалі вельмі старанна і з вялікай павагай да людзей рознага сацыяльнага статусу. Гэта мяне кранула і, можна сказаць, зачапіла. Тады з’явілася думка: “Я таксама так хачу”. З гэтага ўсё пачалося…

**– Вы знаходзіцеся ў Расіі чатыры гады. У якіх парафіях, акрамя Благавешчанска, Вы неслі служэнне яшчэ?**

– Усяго ў Расіі тры кляштары, дзе працуюць нашы сёстры-дамініканкі: Улан-Удэ (Бурятыя), Благавешчанск і Калінінград. Акрамя цяперашняй Благавешчанскай парафіі, у якую нас запрасілі айцы-вербісты, я працавала яшчэ ва Улан-Удэ.

**– Як Ваша дамініканская супольнасць звязана з парафіяй?**

– Мы рыхтуем дзяцей і дарослых да прыняцца сакрамантаў, займаемся моладдзю, калі яна ёсць. Таксама сочым за чысцінёй літургічных рэчаў, падрыхтоўваем дэкарацыі на розныя перыяды літургічнага года. У нашай парафіі я з’яўляюся арганісткай. У Благавешчанску са мной жыве яшчэ адна дамініканка – сястра Таццяна. Яна працуе медсястрой у дзяржаўнай клініцы і на дадзены момант дапамагае лячыць хворых на каронавірус. Непадалёк ад Благавешчанска, за 150 кіламетраў, ёсць горад Свабодны, куды мы таксама даязджаем кожную нядзелю, бо там знаходзіцца наша другая парафія. Для Расіі гэта невялікая адлегласць.

**– Благавешчанск знаходзіцца на самай мяжы з Кітаем. Цікава, ці ёсць нейкая сувязь паміж парафіямі дзвюх краін?**

– Насупраць Благавешчанска размешчаны горад Хэйхэ. Нас раздзяляе рака Амур. Нягледзячы на тое, што ад нашага кляштара да мяжы можна дайсці за дзесяць хвілін, у Хэйхэ нам яшчэ не ўдалося пабываць, паколькі на дадзены момант усе граніцы закрытыя. Знаходзіцца там у манаскім адзенні небяспечна таксама і па прычыне пераследу хрысціян.

Нашу парафію кітайскія вернікі наведваюць не так часта. Аднак такое здараецца. Аднойчы ў нас было пяць святароў з Кітая. У Благавешчанску ёсць вернік-практык кітайскай нацыянальнасці Яша, таму ён не раз запрашаў сваіх сяброў у госці. Але зараз вельмі складана падтрымліваць розныя міжнацыянальныя сувязі. Хачу Вас папрасіць аб малітве за яго, бо ўжо два гады пасля таго, як закрыліся граніцы, ён не можа вярнуцца да сваёй сям’і, да жонкі і маленькага сына. Спрабаваў паехаць да іх неаднойчы, аднак яго не прапускаюць.

**– Крыху з гісторыі… Наколькі маладая парафія ў Благавешчанску?**

– У Благавешчанску ёсць будынак каталіцкага касцёла, помнік архітэктуры гатычнага стылю. Яго пабудавалі на пачатку XX стагоддзя каталікі, якія былі сасланыя на Далёкі Усход. У 1932 годзе касцёл закрылі савецкія ўлады. У 1947 годзе святыню перадалі пад праваслаўную царкву. Таму гэтага будынка касцёла мы зараз не маем і моцна молімся, каб улады яго вярнулі. На сённяшні дзень наша парафія знаходзіцца ў памяшканні былой лабараторыі, якое нам далі для бясплатнага карыстання.

Сучасная парафія ў Благавешчанску паўстала дзякуючы верніку Аляксандру Іванавічу Рэнейскаму. Калі ён пераехаў сюды, хацеў знайсці касцёл. Зайшоўшы ў гістарычны будынак святыні, ён пачаў шукаць яе нашчадкаў. Знайшоў дзесяць чалавек – гэта мінімальная колькасць для стварэння парафіі. Тады напісаў ліст да Папы Рымскага з просьбай прыслаць сюды святара. У 1999 годзе была адпраўлена першая святая Імша, і айцы-вербісты афіцыйна распачалі тут сваё служэнне.

**– А што з колькасцю вернікаў?**

– Каталіцкія парафіі ў Расіі невялікія. Да нас прыходзіць дзесьці 20-25 парафіян. У Свабодным, куды мы даязджаем, яшчэ менш. Калі ў нядзелю на Імшу прыйдзе 15 чалавек, – гэта вельмі добра. У будні дзень мала хто прыходзіць, могуць быць толькі святары і манахіні. На самым пачатку, калі я прыехала сюды, мне было крыху дзікавата, бо ў Беларусі, у тых месцах дзе я працавала, у будні дзень на Імшу ўсё ж прыходзілі людзі.

**– З якімі праблемамі, на Ваш погляд, сутыкаюцца зараз каталікі Расіі, Вашай парафіі?**

– У савецкія часы вера ў Беларусі захавалася дзякуючы старэйшаму пакаленню. Тут, у Расіі, такога “шчасця” не было. Многія пакаленні пражылі тут проста без веры. Таму яна на гэтых тэрыторыях слабая. Каб яе адрадзіць, трэба вельмі шмат працаваць над гэтым і шмат маліцца. Таксама патрэбны час, каб людзі прыйшлі да веры.




Тут вельмі шмат праваслаўных. Я б сказала больш ахрышчаных людзей, чым практыкаў-вернікаў. У Расіі шмат яшчэ і тых, хто з верай не мае нічога агульнага. Нашы парафіяне вакол сябе не маюць падтрымкі… Яны прыходзяць у касцёл, моляцца, прыходзяць на заняткі, дзе ўсё ўважліва слухаюць. Аднак потым вяртаюцца ў атэістычнае асяроддзе. У такіх абставінах ім патрэбная мужнасць, каб не зламацца і жыць так, як гаворыць Хрыстос.

Таксама праблема бывае з надвор’ем. На Далёкім Усходзе халадней, чым у Беларусі. І калі тэмпература дасягае мінус трыццаці ці больш, не кожны можа даехаць да адзінай святыні ў горадзе, асабліва з дзецьмі. Бо некаторыя жывуць далёка, а дабірацца тады доўга і складана.

**– Як выглядаюць адносіны з іншымі рэлігійнымі арганізацыямі і канфесіямі?**

– З рознымі канфесіямі мы стараемся падтрымліваць добрыя адносіны. Напрыклад, праваслаўны біскуп запрашае нашага святара да сябе ў госці на дзень нараджэння ці на нейкае іншае свята. Мы таксама запрашаем на Вялікдзень. Стараемся жыць дружна.

**– Як часта ўдаецца наведваць родную Беларусь?**

– Дамоў, у Беларусь, я езджу раз на год. Аднак цяпер праз каронавірус на Радзіме не была ўжо два гады.

**– А Вашы блізкія наведвалі Вас?**

– Мае родныя не прыязджалі сюды, бо гэта вельмі далёка і дорага. Таксама трэба мець шмат часу. Паміж гарадамі тут вельмі вялікія адлегласці, і асабліва не пакажаш нейкія значныя месцы. Бліжэйшы ад Благавешчанска горад – Хабараўск – знаходзіцца праз 1000 км. Да іншага буйнога горада, Уладзівастока – двое сутак ад нас цягніком. Таму не ўсё так проста…

Дарэчы, з адлегласцю ёсць праблемы таксама, калі мы хочам арганізаваць нейкую сумесную парафіяльную сустрэчу і выехаць кудысьці. Зноў жа гэта патрабуе шмат часу і грошай. Сёлета мы праводзілі дзіцячы летнік у парафіі Уладзівастока, бо ў нас няма ўмоў для гэтага. Таму чацвёра сутак былі з дзецьмі толькі ў дарозе.

**– Што б Вы сёння пажадалі чытачам “Каталіцкага Весніка”?**

– Хочацца пажадаць кожнаму сапраўднай моцнай веры. Ніколі не траціце пачуцця радасці ў служэнні Госпаду. Жадаю вам, беларусы, сапраўды шанаваць тую веру, якая захавалася дзякуючы старэйшаму пакаленню! Таму зараз у Беларусі вера жыве! І я зразумела гэта, толькі пабыўшы ў Расіі.

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***





# Что почитать?

**Всё чаще мы слышим о том, что кто-то из нашего близкого окружения либо мы сами страдаем депрессией. Порой слово "депрессия" употребляется для усиления описания плохого настроения, некого эмоционального выгорания, упадка сил.**

А между тем, депрессия – серьёзное психическое заболевание, которое, к счастью, поддаётся лечению при выполнении определённых условий. Периодически я восполняю свои знания по этой теме, поскольку этому психическому расстройству подвержены очень многие люди и такая информация может быть полезной не только психологу-консультанту, но в первую очередь себе самому. Понимая, как работают определённые механизмы депрессии, её можно предупредить с помощью специальных профилактических мер. А, как известно, болезнь лучше предупредить, чем лечить.

Для меня как для христианки всегда остаётся интересным подход именно христианской психологии. Поэтому хочу порекомендовать книгу христианских психологов-консультантов доктора Пола Майера и доктора Фрэнка Минирта "Выбираем счастье. Как освободиться от депрессии".

Авторы книги помогут найти ответы на такие вопросы как "Что вызывает депрессию?", "Есть ли способ исцелиться от депрессии?", "Что делать, если от депрессии страдает близкий человек?" Важным моментом является то, что авторы показывают, как духовная жизнь человека взаимодействует с его психологическим здоровьем, предлагают пути, ведущие к счастью и насыщенной жизни.

Для кого написана эта книга? Книга предназначена для людей, страдающих от депрессии, членов их семей, консультантам, психологам и семейным врачам.

Так же данная книга подробно приводит характерные черты человека, находящегося в депрессии. Это в свою очередь поможет своевременно понять, что, возможно, кто-то из вашего близкого окружения страдает депрессией и нуждается в помощи. Благодаря тесту на наличие депрессии, который предлогается на страницах книги, вы сами сможете оценить своё психологическое здоровье.

Книга "Выбираем счастье" содержит в себе не только подробные разъяснения причин возникновения депрессии, но и некоторые упражнения, выполнение которых может указать на ваш уровень тревожности, стресса, которые влияют на развитие депрессии. Научные исследования доказали, что 85% всех случаев тяжёлой депрессии вызваны стрессовыми событиями жизни. В главе "Как справиться с тревогой?" авторы приводят десять библейских принципов победы над тревогой, а также выделяют семь правил счастливой жизни.

Доктор Пол Майер и доктор Фрэнк Минирт считают, что не существует одной-единственной причины для всех случаев депрессии или одного-единственного способа освободиться от неё. Каждый способен излечиться, в чем могут помочь материалы, представленные в этой книге. При правильном лечении для полного избавления от депрессии потребуется не так много времени – от нескольких недель до нескольких месяцев. Но важно помнить, что счастье – это выбор. Ваш выбор.




**Оглавление:**

Часть 1. Что такое депрессия?

1. Кто подвержен депрессии?
2. Каковы симптомы депрессии?
3. Грех ли самоубийство?
4. Горе и депрессия – это одно и то же?

Часть 2. Каковы причины депрессии?

5. Виноваты ли гены?
6. Глубоки ли корни депрессии?
7. В чем источник эмоциональной боли?
8. Везет ли "правильным" людям?
9. Можно ли "разыграть" депрессию?
10. Какие стрессы вызывают депрессию?
11. Какие личностные черты ведут к депрессии?

Часть 3. Как преодолеть депрессию

12. Правила счастливой жизни
13.Как справиться с гневом?
14. Нужны ли лекарства и госпитализация?
15. Как справиться с тревогой?
16. Как сделать жизнь счастливой?

**P.S. В редакции "Каталіцкага Весніка" не имеется в наличии книг из рубрики "Что почитать". Советуем их искать в интернет-магазинах.**

## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**6 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Вячаслаў Барок** *(Расоны)*;

**8 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Глыбокае)*;

**12 студзеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*;

**18 студзеня** – гадавіну біскупскай сакры адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**19 студзеня** – імяніны адзначаюць **кс. Генадзій Ляўкоў, кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*;

**21 студзеня** – імяніны адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**27 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**29 студзеня** – імяніны адзначае **кс. Валерый Орсік** *(Дзеркаўшчына)*;

**31 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**



# Крылатыя выразы ў Бібліі

**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе вам удакладніць, дзе сустракаюцца ў Бібліі прыведзеныя крылатыя выразы або тыя словы, якія ляглі ў аснову прыпанаваных выслоўяў. Праверце свае веды, прайдзіце тэст!**

**1 Валаамава асліца**



А. Псалтыр
Б. Кніга Лічбаў
В. Дзеі Апостальскія

**2 Забаронены плод**



А. Кніга Быцця
Б. Кніга Зыходу
В. Кніга Лічбаў

**3 Не ствары сабе куміра**



А. Кніга Быцця
Б. Кніга Зыходу
В. Апакаліпсіс

**4 Вока за вока, зуб за зуб**



А. Стары Запавет
Б. Новы Запавет
В. Псалтыр

**5 Час раскідваць камяні, час збіраць камяні**



А. Кніга Ёва
Б. Кніга Выслоўяў
В. Кніга Эклезіяста

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

**6 Абмываць рукі (ухіліцца ад адказнасці)**



А. Евангелле ад Мацвея
Б. Евангелле ад Марка
В. Евангелле ад Лукі

**7 Слуга двух гаспадароў**



А. Кніга Эстэр
Б. Кніга Амоса
В. Евангелле ад Лукі

**8 Хто з мячом прыйдзе, ад мяча і загіне**



А. Кніга Зыходу
Б. Кніга Ёны
В. Евангелле ад Мацвея

**9 Дом, пабудаваны на пяску**



А. Псалтыр
Б. Евангелле ад Мацвея
В. Пасланне да габрэяў

**10 Няма прарока ў сваёй айчыне**



А. Кніга прарока Баруха
Б. Кніга прарока Даніэля
В. Евангелле ад Лукі

*Старонку падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***

# ТОП незвычайных батлеек

**Напярэдадні Божага Нараджэння з'яўляюцца сапраўдныя творы мастацтва – батлейкі, якія расказваюць пра цудоўнае нараджэнне Езуса і падтрымліваюць святочную атмасферу. "Каталіцкі Веснік" сабраў інфармацыю пра некалькі незвычайных батлеек, якія былі створаны ў свой час у розных краінах свету.**



### Батлейка Пробошта

У чэшскай мясцовасці Тржэбехавіцэ знаходзіцца музей батлеек. Іх больш за чатырыста. Тут можна знайсці вырабы са шкла, дрэва, свінцу, паперы, саломы. Аднак самая каштоўная – рухомая драўляная батлейка Пробошта, якая важыць 1,2 тоны. У ёй знаходзіцца больш за дзве тысячы разьбяных фігурак. Даўжыня батлейкі – сем метраў, шырыня – 3, 2 метра, вышыня – 1,8 метра.



### Самая вялікая ў свеце батлейка

Самая вялікая калядная батлейка ў свеце была ўсталявана ў 2020 годзе ў Алікантэ (Іспанія). Яе ўнеслі ў Кнігу рэкордаў Гінэса. Вышыня фігуры святога Юзафа складае мінімум 19 метраў. Скульптура Езуса вышынёй больш за тры метры, а Марыі – каля дванаццаці метраў.



### Снежныя і ледзяныя батлейкі

У самых халодных рэгіёнах, напрыклад, у Расіі можна ўбачыць унікальныя і прыгожыя батлейкі з лёду.

Штогод у свеце з'яўляюцца снежныя батлейкі. Так, у Польшчы з двухметровага ўзгорка снегу спадар Генрык выразаў у сваім двары калядную батлейку.



### Самая маленькая батлейка ў свеце

У 2017 годзе ў Вільні была створана самая маленькая ў свеце батлейка. Яна настолькі мініяцюрная, што можа змясціцца ўнутры вушка іголкі, а ўсе дэталі можна разгледзець толькі пад мікраскопам. Вышыня фігуркі маленькага Езуса складае каля 22,822 мікраметра, а яе дыяметр – каля 12,5 мікраметра. Для параўнання: клетка чалавека мае дыяметр 50 мікраметраў.



### Бэтлеем з пяску

У шматлікіх краінах скульптары штогод ствараюць пясчаныя батлейкі, якія здзіўляюць сваёй натуральнасцю.

На Канарскіх выспах такая традыцыя існуе больш за пятнаццаць гадоў. У 2020 годзе ў адным з такіх вырабаў сцэны з Бібліі былі адноўленыя з дапамогай 2000 тон пяску і вады.

У 2018 годзе на стварэнне незвычайнага каляднага аб'екта ў Ватыкане пайшло 720 тон пяску.



### Батлейкі з ежы

У Чэхіі ў мясцовасці Маславіцы на Божае Нараджэнне ўжо амаль дваццаць гадоў робяць калядную батлейку з масла.

У 2015 годзе брытанская мастачка стварыла калядную батлейку з сыру. З кавалка чэддэра яна памайстэрску выразала фігуры Марыі, Юзафа, трох каралёў, маленькага Езуса і нават жывёл. Фігуры перададзены з фатаграфічнай дакладнасцю, на тварах можна было разгледзець нават эмоцыі.




### Батлейка на ўзбярэжжы

Калядную батлейку з 1960-х гадоў робяць жыхары невялікага італьянскага гарадка Манарола. Пляцоўкай для яе размяшчэння служыць прыбярэжны ўзгорак вышынёй некалькі дзясяткаў метраў. Яго ўпрыгожвае больш за 150 фігур, для асвятлення якіх пракладваюць электрычныя кабелі агульнай працягласцю каля васьмі кіламетраў.

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Урачыстасць у Карэлічах святой Ружы Лімскай

**Урачыстасць інтранізацыі абраза св. Ружы Лімскай адбылася 27 лістапада ў паўлінскім касцёле Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Карэлічах (Гродзенская дыяцэзія).**

**■ а. Ануфрый Альховік OSPPE**

Урачыстую св. Імшу цэлебравалі кс. бп Юрый Касабуцкі – генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, кс. Андрэй Радзевіч – пробашч у Бярозаўцы, кс. Андрэй Пышынскі – пробашч у Казлоўшчыне і айцы-паўліны – а. Ежы Саковіч OSPPE і а. Ануфрый Альховік OSPPE.

Памаліцца да паўднёваамерыканскай святой прыбылі шматлікія госці, сёстры-дамініканкі, уршулянкі, францішканкі ад тых, хто ў цярпенні, брат Баніфратар. Таксама вернікі мелі магчымасць з'яднацца ў малітве дзякуючы трансляцыі Радыё Марыя.

Абраз св. Ружы напісаў мастак з Бярозаўкі сп. Міхал Савашынскі. Святая дамініканка з Лімы апякуецца садаводамі, кветкаводамі і дапамагае ў сем'ях, якія перажываюць крызісы.

Св. Ружа Лімская была першай святой амерыканскага кантынента. Пражыла святая Ружа ўсяго 31 год (з 1586 па 1617 гг.). Нарадзілася ў Перу і падчас хросту атрымала імя Ізабэла. Аднак праз далікатную скуру многія называлі яе Ружай. Святая адмовілася ад прапановы выйсці замуж і рана пачала працаваць, займаючыся продажам кветак і шыццём. У дваццаць гадоў уступіла ў Трэці ордэн дамініканак. Шмат часу праводзіла ў малітве і посце, аказвала дапамогу бедным і хворым, асабліва індзейцам і нявольнікам. Дзень смерці прадбачыла сама. Да шэрагу святых была далучана ў 1671 г. У нашай краіне св. Ружа, на жаль, малавядомая.

Чаму менавіта гэтая святая заняла месца ў карэліцкім касцёле? На тое ёсць некалькі прычын. У Карэлічах служаць айцы ордэна св. Паўла Першага Пустэльніка, харызмат якіх вельмі блізкі да харызмату св. Ружы. Па прыкладзе св. Кацярыны Сіенскай яна праводзіла аскетычнае жыццё. Удзень працавала, а ўвечары да позняй гадзіны праводзіла час у самотнасці на малітве ў сваёй пустэльні. Карэліцкія парафіяне з радасцю падтрымалі ініцыятыву пробашча а. Ежы Саковіча, каб адзін з бакавых алтароў святыні прысвяціць св. Ружы. У мястэчку жыве шмат кветкаводаў, якія хацелі б мець сваю нябесную апякунку.

Успамін св. Ружы ў Каталіцкім Касцёле прыпадае на 23 жніўня, а ў некаторых краінах – на 30 жніўня. Вернікі, якія хацелі б прыехаць у Карэлічы ў пілігрымкі да св. Ружы Лімскай, могуць патэлефанаваць айцам-паўлінам:

+37529 282-86-76, +37525 782-23-13.



**Малітва да св. Ружы Лімскай**

Святая Ружа, ты любіла паўтараць, што калі б людзі ведалі, што азначае жыць у ласцы, не баяліся б ніякага цярпення і ахвотна зносілі б усялякія цяжкасці, таму што ласка – гэта плод цярплівасці.

Вучы мяне, як быць верным Пану Богу, калі напаткаюць цяжкія і нават невыносныя выпрабаванні. Выпрасі мне ў Бога асабліва тыя дары, якія мне неабходныя цяпер. І не забывайся пра мяне ў тыя хвіліны, калі я не адчуваю прысутнасці Бога ў маім жыцці. Будзь пры мне тады, калі мне патрэбны хтосьці, хто мне пакажа Бога. І дай мне больш цярплівасці да самога сябе. Амэн!

# Бласлаўлёныя міратворцы: абавязак будавання міру

**Так ужо павялося, што на Святы Божага Нараджэння людзі дораць адно аднаму падарункі, пасылаюць паштоўкі, тэлефануюць блізкім і сябрам. Пры гэтым яны абменьваюцца цёплымі словамі ды пажаданнямі шчасця, любові і, канешне, міру.**

**■ с. Дар'я Галубкова OV**

Мір, супакой, згода – гэтыя словы так кранальна гучаць падчас дзялення аплаткам, у асабістых ці афіцыйных віншаваннях, у святочных зваротах біскупаў і палітыкаў. І не дзіўна: бо мір – гэта тое, чаго прагне кожны нармальны чалавек і да чаго павінны імкнуцца ўсе народы свету.

У Святым Пісанні мы чытаем, што мір – гэта дар Бога чалавеку. Кніга Прарока Ісаі гаворыць пра абяцанага Месію, Князя Супакою, Які прынясе свету мір, бяспеку, блаславенне, паяднанне з Богам. Яна таксама малюе ідылічны вобраз будучага міру (Іс 11,6-8): як воўк будзе жыць разам з ягнём, цяля і малады леў будуць пасвіцца разам, а малое дзіця будзе вадзіць іх. Прароцтва здзейснілася ў Езусе Хрысце, Які праз сваю Ахвяру і Уваскрасенне не толькі знішчыў смерць, але адарыў нас мірам, прыносячы паяднанне з Богам, бліжнімі і навакольным светам. "Ён – спакой наш, Які ўчыніў адно і другое адзіным, і мур варожасці, што падзяляў, зруйнаваў у сваім целе. [...] Прыйшоўшы, Ён абвясціў спакой вам, якія далёка, і спакой тым, якія блізка" (Эф 2,14-15.17). Аднак, паколькі чалавечая натура недасканалая і грэшная, нам неабходна гэты дар міру сцерагчы і развіваць, інакш яго вельмі лёгка страціць.

Атрымліваецца, што мір – гэта таксама заданне, як для ўсяго Касцёла, так і для кожнага хрысціяніна. Абарона і будаванне міру з'яўляюцца неад'емным элементам нашай рэлігійнай тоеснасці. Іншымі словамі, нельга быць хрысціянінам і адначасова не імкнуцца да міру. Да гэтага заахвочваюць нас словы Хрыста: "Бласлаўлёныя міратворцы, бо яны будуць названыя сынамі Божымі" (Мц 5,9). Пра гэтае ўзнёслае заданне нагадвае і знак супакою, які мы перадаём адно аднаму падчас Святой Імшы.

Дарэчы, менавіта гэты знак, калі незнаёмыя людзі з усмешкай на твары звяртаюцца да цябе, прыхіляюць галаву або падаюць руку як жэст міру, звычайна выклікае радаснае здзіўленне і робіць глыбокае ўражанне на тых, хто ўпершыню прыходзяць у касцёл. Мір бярэ пачатак у сэрцы чалавека, адкуль ён павінен выпраменьваць на яго асабістае і супольнае жыццё. Не кожны мае аднолькавыя магчымасці дзейнасці і ўплыву на грамадска-палітычныя зносіны, аднак кожны мае абавязак знайсці ўласны шлях у агульнай справе будавання міру: шлях любові, прабачэння і паяднання. Як заклікаў Папа Ян Павел II у пасланні на Сусветны дзень міру 2004 года, "сёння мір усё яшчэ з'яўляецца магчымым. А калі так, то мір таксама з'яўляецца абавязкам!"

Мір – гэта не толькі адсутнасць вайны, унутраных ці знешніх узброеных канфліктаў, хоць менавіта такога міру нестае цяпер у шматлікіх кутках зямлі. Мір – гэта перадусім шанаванне годнасці чалавечай асобы і будаванне грамадскага ладу, заснаванага на праўдзе і справядлівасці. Да таго ж існуе глыбокая сувязь паміж мірам і вызнаваннем каштоўнасці чалавечага жыцця: барацьба за мір – гэта заўжды барацьба за жыццё. Ёзаф Рацынгер (будучы Папа Бэнэдыкт XVI), разважаючы пра крохкасць міру, што зазнала чалавецтва ў апошнія часы, пісаў: "З магіл людзей, якія загінулі ў II Сусветнай вайне, чуваць гучны заклік аб памнажэнні моцы дабра; гэта заклік да такіх намаганняў, такога ладу жыцця і цярпення, каб абуджаліся і ўзмацняліся тыя каштоўнасці і ісціны, на аснове якіх можна было б дасягнуць паяднання ў свеце, што мае свой падмурак у Богу". Адным словам, мір немагчымы без унутранай перамены чалавека, без шукання апоры ў Богу і яго маральным законе.



У Евангеллі Езус Хрыстус звяртаецца да Апосталаў: "Спакой пакідаю вам, спакой Мой даю вам. Не так, як дае свет, Я вам даю. Няхай не трывожыцца сэрца вашае і не баіцца" (Ян 14,27). Згодна з воляй Пана, вучэнне і дзейнасць Каталіцкага Касцёла накіраваныя ў тым ліку на будаванне міру, на пашырэнне супрацоўніцтва і салідарнасці паміж людзьмі, на стварэнне міжнароднай супольнасці.

Асабліва актыўна Касцёл пачаў выказваць сваю пазіцыю ў XX стагоддзі, гісторыя якога напоўненая крывавымі войнамі, знішчэннем цэлых народаў, гонкай узбраення, гуманітарнымі катастрофамі. Варта згадаць, у прыватнасці, сусветнавядомую энцыкліку Папы Яна XXIII Pacem in terris (Мір на зямлі) з 1963 года. Гэты багаты на змест дакумент ужо ў першым сказе падкрэслівае, на якім падмурку належыць будаваць мір: "Мір на зямлі, якога так гарача прагнулі ўсе людзі ўсіх часоў, не можа быць пабудаваны і ўмацаваны інакш, як шляхам дакладнага захавання ўстаноўленага Богам парадку". Пачынаючы з 1967 года, 1 студзеня ў Касцёле таксама адзначаецца Сусветны дзень міру, з нагоды якога Рымскія Пантыфікі абвяшчаюць адмысловыя пасланні на тэму міру ўсім людзям добрай волі.

Дзеля збудавання мірнага ладу на зямлі, без сумневу, неабходная малітва. Гэта адзіная "зброя", якую варта ўжываць у барацьбе за мір. Няхай жа мір на зямлі – заканчэнне войнаў, канфліктаў, пашана да правоў чалавека і яго годнае жыццё – будуць нашай мэтай і малітоўнай інтэнцыяй у надыходным новым годзе! І памятайма, што мір пачынаецца ў сэрцы чалавека, у сэрцы кожнага з нас!

# Дзеясловы з суфіксам *-ава- (-ява-)* у сучаснай беларускай мове

**Мы часта бачым на старонках беларускамоўных газет і ў інтэрнэт-прасторы формы дзеясловаў кшталту *фарміраваць* і *фармаваць*, *планіраваць* і *планаваць*, *дэгусціраваць* і *дэгуставаць*, *каменціраваць* і *каментаваць*... Таксама нярэдка сутыкаемся з падобным і ў вуснай камунікацыі. І традыцыйна паўстае пытанне: катарая з прыведзеных формаў правільная? Каторая з іх адпавядае патрабаванням культуры маўлення?**

**■ Юрась Бабіч – кандыдат філалагічных навук**

Так, наша мова, як і любая іншая, няспынна зменяецца. Прычым гэта назіраецца на розных яе ўзроўнях: на лексічным, граматычным, сінтаксічным. Зразумела, што любыя навацыі найбольш відавочныя найперш на лексічным узроўні, які з'яўляецца самым рухомым. Бо лексіка папаўняецца ўвесь час, адлюстроўваючы новыя рэаліі грамадскага, культурнага, эканамічнага ці палітычнага жыцця. Але часам пэўныя змяненні мы фіксуем і на іншых узроўнях, у прыватнасці на граматычным. Пагаворым пра гэта больш падрабязна.

У апошнія гадоў дваццаць у беларускім публіцыстычным дыскурсе, як, зрэшты, і ў вуснай камунікацыі істотна пашырылася колькасць дзеясловаў з суфіксам *–ава-* (*-ява-*). Яны паступова выцясняюць словы з фармантам *–ірава-* (*-ырава*) або ўжываюцца паралельна. Так, цяпер назіраецца адначасовае выкарыстанне дзеяслоўных формаў на *–ірава-* (*-ырава-*) (**аперыраваць каменціраваць**, **тэсціраваць** і інш.) і на *–ава-* (*-ява-*) (**апераваць**, **каментаваць**, **тэставаць** і інш.). У новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (2008 год) таксама падкрэсліваецца, што "пераважная большасць запазычаных дзеясловаў ужываецца з суфіксам –ава- (-ява-)" (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск, 2008, с. 32). Недаўгавечнасць функцыянавання суфікса *-ірава-* (*-ырава-*) нават у рускай мове, выцясненне там гэтай марфемы суфіксам *-ова-* прадказвалі ў свой час вядомыя расійскія лінгвісты С.Абнорскі, Л. Берг, П.Кузняцоў. І ўсё больш пытанняў узнікае адносна метазгоднасці ўжывання ў сучаснай беларускай мове падобных словаформаў, гэта значыць, дзеясловаў з суфіксамі *-ірава-* (*-ырава-*).

Дзеля справядлівасці скажам, што суфікс *-ава-* (*-ява-*) мае даўняе паходжанне і, паводле меркавання вядомага лінгвіста XX стагоддзя француза Антуана Мэе, яго карані трэба шукаць "у індаеўрапейскіх мовах" (А. Мейе. Общеславянский язык. – Москва, 1951, с. 183).

Згаданы фармант шырока ўжываецца і ва ўсіх сучасных славянскіх мовах, гэта значыць, з'яўляецца прадуктыўным. У беларускай мове пры яго дапамозе ўтвараюцца дзеясловы ад назоўнікаў (*апека* – **апекаваць**, *баланс* – **балансаваць**, *друк* – **друкаваць**, *група* – **групаваць**, *нумар* – **нумараваць** і г.д.) і прыметнікаў (*люты* – **лютаваць**, *марны* – **марнаваць**, *пусты* – **пуставаць**, *сумны* – **сумаваць**) і г.д. Вядомы наш даследчык Мікалай Васілеўскі адзначае, што ў беларускай мове налічваецца "каля 600 дзеяслоўных лексем з суфіксам *-ава-* (*-ява-*); з іх каля 280 адзінак з іншамоўнай асновай, якія ў рускай мове ўжываюцца з суфіксам *-ирова-*" (М. Васілеўскі. Дзеяслоўнае словаўтварэнне. – Мінск, 1985, с. 10). Колькасць апошніх сёння значна паменшылася, бо яны замяніліся формамі на *-ава-* (*-ява-*), але слоўнікі разам з тым папоўніліся новымі лексемамі на *-ірава-*, якіх у 80-я гады мінулага стагоддзя не было ці якія ўжываліся рэдка.

Упершыню дзеясловы на *–ірава* зафіксаваў "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча, выдадзены ў 1937 годзе. Тут ёсць 132 беспрыставачныя дзеясловы на *–ірава* і толькі 70 на *– -ава*. Але ж мы цудоўна ведаем, які гэта быў час. Дарэчы, Пятро Глебка ў рэцэнзіі на слоўнік слушна пісаў, што многія словы з расейскай часткі засталіся не перакладзенымі, а толькі напісанымі беларускімі літарамі. Можна сказаць, што выкарыстанне дзеясловаў з суфіксамі *–ава-* ці *–ірава-* залежала не ад аб'ектыўных моўных фактараў, а найперш ад пазамоўных чыннікаў, часта – ад палітычнай кан'юнктуры. У савецкі час, калі імкнуліся рэалізаваць ідэю на "зліццё нацый, іх культуры і мовы", формы з суфіксам *–ірава-* свядома выцяснялі адмыслова беларускія з фармантам *–ава-*. Але ж слоўнікі складаюць лінгвісты-адмыслоўцы, для якіх аб'ектыўны моўны факт павінен быць найгалоўнейшым. І ў тых выпадках, дзе складальнік ці рэдактар слоўніка добра адчувалі жывое народнае слова, былі прыхільнікамі нацыянальнай культуры і мовы, імкнуліся захаваць яе адметнасць, такія штучныя для беларускай мовы формы з *–ірава* фіксуюцца значна радзей. Да прыкладу, у першым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", выдадзенага ў 1977 годзе пад рэдакцыяй нашага вядомага пісьменніка і мовазнаўца Міколы Лобана, бачым значнае абмежаванне дзеясловаў з суфіксам *–ірава-*. На іх месцы падаюцца формы на *–ава-*: **актываваць** (а не *актывіраваць*), **бальзамаваць** (а не *бальзаміраваць*), **візаваць** (а не *візіраваць*) і многія іншыя. Вядомы наш навуковец лічыў элемент *–ір* абсалютна выпадковым і непатрэбным ў беларускай мове, бо ў слове ён не мае ніякага значэння.

*(Працяг – у наступным нумары)*

# СІНАДАЛЬНАЯ КАМІСІЯ ПРЫ КАНФЕРЭНЦЫІ КАТАЛІЦКІХ БІСКУПАЎ У БЕЛАРУСІ

## СІНАДАЛЬНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

Шаноўныя сябры! Прапанаваныя ніжэй пытанні для абмеркавання з'яўляюцца вынікам распрацоўкі дзесяці тэм, складзеных Сінодам Паўсюднага Касцёла. Пры падрыхтоўцы мы ўлічвалі і сённяшні стан Касцёла ў Беларусі.

Усіх, хто жадае прыняць удзел у гэтай сінадальнай кансультацыі, мы просім адказаць перш за ўсё на тыя тэмы і пытанні, якія больш за іншыя адпавядаюць Вашаму асабістаму шляху веры і жыцця, і пакідаем за кожным права вырашаць, на каторае сінадальнае пытанне адказваць, а каторае пакінуць без адказу. Існуе таксама магчымасць выказацца на любую тэму, нават на тую, якая не ўвайшла ў сінадальную кансультацыю.

Выконваючы рэкамендацыі Папы Францішка і нашых біскупаў, зазначым, што прыняць удзел у дыяцэзіяльным этапе сінадальнай кансультацыі можа кожны ахвотны. Запоўніць анкету можна як самастойна, так і супольна (сям'я, манаская супольнасць, дэканат, рэлігійная група альбо супольнасць і г.д.).

**Укажыце, калі ласка, пра сябе наступную агульную інфармацыю:**

1. Мужчына/жанчына (неабходнае падкрэсліць)
2. Узрост ________________
3. Свецкі вернік/святар/сястра законная/брат законны/клерык (неабходнае падкрэсліць)
4. Месца пражывання: абласны цэнтр/раённы цэнтр/сельская мясцовасць (неабходнае падкрэсліць)
5. Ахрышчаны/не ахрышчаны (неабходнае падкрэсліць)
6. Вернік/не вернік (неабходнае падкрэсліць)
7. Веравызнанне___________
8. Практыкую веру рэгулярна/практыкую веру час ад часу/ не практыкую веру (неабходнае падкрэсліць)
9. Дыяцэзія, да якой належу (неабходнае падкрэсліць)

- Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
- Віцебская дыяцэзія
- Гродзенская дыяцэзія
- Пінская дыяцэзія
- Апостальская Візітаторыя для грэка-католікаў Беларусі

**ДЗЕСЯЦЬ СІНАДАЛЬНЫХ ТЭМ**

**СЯБРЫ ПАДАРОЖЖА:** ***у Касцёле і ў грамадстве мы знаходзімся побач, крочым адною дарогаю жыцця і веры.***

а) Калі мы кажам "наш Касцёл", то хто з'яўляецца яго часткамі/чальцамі?

б) Хто ў нашай дыяцэзіі тыя, з кім мы "крочым разам", хто знаходзіцца побач з намі?

в) Хто просіць нас быць "спадарожнікам"?

г) Хто з'яўляецца нашымі спадарожнікамі па-за межамі касцельнай рэчаіснасці?

д) Як дыяцэзія якіх людзей альбо якія сацыяльныя групы мы маглі б запрасіць у сваё падарожжа?

е) Якіх людзей ці якія сацыяльныя групы мы як дыяцэзія пакідаем "на ўзбочыне" нашага падарожжа, знарок ці выпадкова?

ж) Наколькі добра мы ведаем нашу мясцовую рэчаіснасць (праца, забавы, спорт, культурныя прапановы, досвед супольнасці і г.д.)? Што адбываецца ў нашай мясцовасці і чым займаюцца і цікавяцца людзі?

з) Наколькі вы ўдзельнічаеце ў грамадскіх і рэлігійных ініцыятывах?

**СЛУХАЦЬ:** ***слуханне – гэта першы крок, але ён патрабуе адкрытага розуму і сэрца, без перадузятасцяў.***

а) Наколькі ў нашай дыяцэзіі прыслухоўваюцца да голасу свецкіх асобаў, асабліва да маладых людзей, жанчын, меншасцяў, да асобаў, выключаных з грамадскага жыцця?

б) Як мы ў нашай дыяцэзіі ставімся да місіі манаскіх асобаў? Ці ўсведамляем іх уклад у дзейнасць Касцёла ў нашай дыяцэзіі?

в) Як мы прыслухоўваемся да сацыяльнага і культурнага кантэксту, у якім жывём?

г) Што трэба зрабіць/змяніць для належнай фармацыі нашых супольнасцяў (парафіяльнай, а таксама тых, якія існуюць унутры парафіі). Ці належным чынам мы прыслухоўваемся да Слова Божага і слова чалавека?

**УЗЯЦЬ СЛОВА:** ***кожнаму прапануецца выказацца мужна і шчыра, гэта значыць, сабраўшы ў адно цэлае свабоду, праўду і міласэрнасць.***

а) Як спрыяць свабоднаму і сапраўднаму стылю адносін унутры нашай дыяцэзіяльнай касцельнай супольнасці і яе структураў, каб камунікацыя адбывалася без крывадушнасці і прыстасавальніцтва?

б) Як спрыяць свабоднаму і сапраўднаму стылю адносін у грамадстве, да якога мы належым?

в) Калі і як нам удаецца сказаць супольнасці дыяцэзіі тое, што важна для нас, што знаходзіцца ў нашым сэрцы?

г) Як мы карыстаемся дарам слова ў сродках камунікацыі (не толькі каталіцкіх): у прыватнасці, у Facebook, Instagram, Tik Tok і г.д.?

д) Якія адносіны скляліся ў дыяцэзіі з медыя (не толькі каталіцкімі)? Хто прадстаўляе ў іх каталіцкую супольнасць і як гэтыя людзі былі выбраныя?

**ЦЭЛЕБРАВАЦЬ:** ***"Крочыць разам" магчыма толькі ў тым выпадку, калі гэта грунтуецца на супольным слуханні Божага Слова і на супольнай цэлебрацыі Эўхарыстыі.***

а) Наколькі мы свядома і актыўна прымаем удзел у літургіі?

б) Як насамрэч малітва і літургія натхняюць і кіруюць нашымі "супольнымі крокамі"? Як яны ўплываюць на нашы самыя важныя рашэнні?

в) Як мы спрыяем прыгажосці літургічных цэлебрацый? Як спрыяем актыўнаму ўдзелу вернікаў у літургіі і ў ажыццяўленні асвячальнага служэння Касцёла?

г) Якое месца адводзіцца служэнню лектараў і акалітаў?

**АГУЛЬНАЯ АДКАЗНАСЦЬ ЗА МІСІЮ:** ***сінадальнасць знаходзіцца на службе збаўчай місіі Касцёла, у якой заклікаsuccessfully прыняць удзел усе яе чальцы.***

а) Якім чынам усе ахрышчаныя запрашаюцца быць актыўнымі ўдзельнікамі місіі Касцёла ў дыяцэзіі?

б) Як супольнасць вернікаў падтрымлівае сваіх чальцоў, каторыя займаюцца служэннем у грамадстве (маюць сацыяльныя і палітычныя абавязкі, праводзяць навуковыя даследаванні і выкладаюць, садзейнічаюць сацыяльнай справядлівасці, абараняюць правы чалавека, клапоцяцца пра агульны дом, задзейнічаны ў экалагічных ініцыятывах і г.д. )?




**ВЕСЦІ ДЫЯЛОГ У КАСЦЁЛЕ І У ГРАМАДСТВЕ:** ***дыялог – гэта шлях сталасці і пастаянства, які ўключае ў сябе маўчанне і цярпенне, але здольны сабраць вопыт асобных людзей і народаў.***

а) Якія і дзе мы праводзім дыялог у нашай дыяцэзіі?

б) Як мы ўспрымаем адрозненне ў меркаваннях, як вырашаем канфліктныя сітуацыі і непаразуменні, што ўзнікаюць у нашых супольнасцях?

в) Як мы спрыяем супрацоўніцтву з прадстаўнікамі манаскіх супольнасцяў, каторыя існуюць на тэрыторыі нашай дыяцэзіі, супрацоўніцтву паміж імі, а таксама іх супрацоўніцтву са свецкімі рухамі і асацыяцыямі?

г) Ці ёсць у нас вопыт дыялогу і сумеснага дабрачыннага (альбо іншага) служэння з вызнаўцамі іншых рэлігій і з тымі, што не з'яўляюцца вернікамі?

д) Як наша дыяцэзія вядзе дыялог з рознымі грамадскімі інстытутамі і чаму можа навучыцца ў іх у сферы палітыкі, эканомікі, культуры, стварэння грамадзянскай супольнасці, у сферы клопату пра бедных?

**АДНОСІНЫ З ІНШЫМІ ХРЫСЦЯНСКІМІ КАНФЕСІЯМІ:** ***дыялог паміж хрысціянамі розных канфесій, аб'яднаных адным Хростам, займае асаблівае месца на сінадальным шляху.***

а) Якія адносіны існуюць у нас з братамі і сёстрамі іншых хрысціянскіх канфесій?

б) Якіх сфер яны датычаць?

в) Які плён прынесла гэтае "ісці разам"?

г) Якія існуюць складанасці?

**АЎТАРЫТЭТ І УДЗЕЛ:** ***сінадальны Касцёл – гэта Касцёл, у якім кожны мае права быць паўнавартасным чальцом і браць на сябе адпаведную свайму стану адказнасць.***

а) Як ажыццяўляецца ўлада ў нашым дыяцэзіяльным Касцёле?

б) Якім чынам адбываецца распазнаванне мэтаў, каторых трэба дасягнуць, распазнаванне шляху, каторым трэба ісці, і распазнаванне крокаў, каторыя для гэтага неабходна зрабіць?

в) Як удзельнічаюць Святарская рада і Дыяцэзіяльная душпастырская рада ў служэнні нашай дыяцэзіі?

г) У чым выяўляецца практыка супольнай працы і сумеснай адказнасці ў нашай дыяцэзіі?

д) Як спрыяе ўдзел у Душпастырскіх радах свецкіх у справе паляпшэння жыцця дыяцэзіі?

**РАСПАЗНАВАННЕ І ВЫРАШЭННЕ:** ***сінадальнасць прадугледжвае, што рашэнні прымаюцца шляхам распазнавання, якія вынікае з агульнай паслухмянасці Духу Святому.***

а) Якія працэдуры і метады мы выкарыстоўваем у працэсе сумеснага распазнавання і прыняцця рашэнняў?

б) Як мы спрыяем удзелу ў прыняцці рашэнняў у іерархічна структураваных супольнасцях?

в) Як можна палепшыць працэс распазнання і прыняцця рашэння ў дыяцэзіі?

**БУДАВАННЕ СІНАДАЛЬНАСЦІ:** ***духоўнасць "супольнага падарожжа" заклікана стаць выхаваўчым прынцыпам для фарміравання асобы чалавека і хрысціяніна, сем'яў і супольнасцяў.***

а) Як навучыць людзей, у прыватнасці тых, хто адыгрывае адказную ролю ў хрысціянскай супольнасці, стаць больш здольнымі "ісці разам", слухаць адно аднаго і весці дыялог?

б) Які працэс выхавання, адукацыі і фармацыі мы прапануем для распазнання і ажыццяўлення паўнамоцтваў у нашых супольнасцях?

в) Якія інструменты дапамагаюць нам распазнаць дынаміку культуры, у якой мы жывём, і яе уплыў на наш стыль быць Касцёлам?

**ІНШАЕ:** ***у супольным падарожжы кожны праз натхненне Святога Духа мае магчымасць выказаць свае заўвагі, меркаванні, а таксама і пажаданні.***

**Запоўненыя анкеты можна дасылаць на адрас:**

**Дыяцэзіяльная сінадальная камісія**

**вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28, 210032 г. Віцебск**



***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Паважаны **ксёндз Вячаслаў**!*

*Надыходзіць вялікае свята Божага Нараджэння. Няхай маленькі Хрыстус блаславіць Вас і адорыць усімі патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая хай захавае Вас і ўкрые сваім плашчом! Анёлы і святыя хай дапамагаюць у Вашай нялёгкай працы! Мы Вас любім і жадаем моцнага здароўя, даўгалецця. Шчасліва Вам сустрэць свята, вясёлага настрою, добрых усмешак!*

***Вернікі з капліц в.Забалоцце і в. Дзедзіна***

***Хвала Хрысту!***

*Шчыра віншуем са святам Божага Нараджэння **ксяндза-пробашча Мікалая Ціхановіча, ксяндза Яўгена Шымановіча, ксяндза Алега Зямчонка і сясцёр законных Ганну Блышко, Людмілу Рубніковіч, Ірыну Яшчышын!** Няхай Дзіцятка Езус прынясе ласку, супакой, радасць і здароўе, мір і блаславенне!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

***Хвала Хрысту!***

*Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч**!*

*Віншуем Вас са святам Божага Нараджэння! Няхай Пан Бог адорыць Вас усімі патрэбнымі ласкамі, а Маці Марыя хай апякуецца Вамі, Анёлы і святыя дапамагаюць ва ўсіх справах!*

*Жадаем Вам вясёлага свята, моцнага здароўя, бадзёрага настрою, шмат сустрэч з добрымі людзьмі! Хай Ваша жыццё будзе шчаслівым, з усмешкай, а любоў людская пяшчотна агорне Вас!*

***"Апостальтва дапамогі душам чысцовым" з касцёлаў у Мёрах, Павяцці, Ідолце***

***Хвала Хрысту!***

*13 снежня дзень нараджэння адзначыў малады святар Пастаўскай парафіі Святога Антонія Падуанскага **Віталь Венцкевіч**.*

*Сардэчна віншуем Вас, ксёндз Віталь! Дзякуем за гарачае, адданае Богу і адкрытае людзям сэрца, за шчырасць, прыветнасць, за вялікую працу з моладдзю і за прыхільнасць да пажылых парафіян! Жадаем моцнага здароўя, стойкасці на нялёгкім святарскім шляху, дароў Духа Святога, плёну ў выкананні душпастырскай паслугі!*

***Парафіяне касцёла Святога Антонія Падуанскага.***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Апостальскі рух "Маргарытка" з Дзеркаўшчыны шчыра віншуе **кс. Віталя Гальца** з днём нараджэння, які ён адзначыў 16 снежня!*

*Няхай у сэрцы зззяе шчасце,
Спакой паселіцца ў душы!
Усе жыццёвыя напасці
Удасца поўнасцю рашыць!*

*Хай Ласка Божая атуліць
Апекай любячай з вышынь!
Любоўю матчынай напоўніць
Марыя сэрца да глыбінь!*

*З любоўю Вас мы абдымаем,
За службу дзякуем спаўна.
Сустрэчы з Вамі мы чакаем
Часцей адведвайце нас!*



# Глыбоцкая парафія прысвяціла сябе Беззаганнаму Сэрцу Марыі



**Каталіцкі Касцёл мае асаблівы прывілей ушаноўваць Найсвяцейшую Панну Марыю ва ўрачыстасць Яе Беззаганнага Зачацця. Так Божы Провід вёў прыгожа, што да гэтай праўды Касцёл дарастаў, дарастаў духоўна, хаця свядомасць Божага народу была заўсёды вельмі глыбока з'яднаная з пабожнасцю Марыі.**

Падчас гаміліі пробашч парафіі кс. Мікалай Ціхановіч асаблівым чынам запрасіў паразважаць, як гэта быць дзіцём Марыі. Святар заклікаў не саромецца называць сябе дзіцём Марыі, аддавацца Ёй пад апеку кожны дзень, асабліва ў такія моманты, калі адчуваеш, што вакол цябе цемра. Тады адчуеш, як прыйдзе супакой і святло, бо Яна разам з намі.

Пасля казання святар запрасіў прысутных вернікаў у гэты святочны дзень падзякаваць Марыі за тое, што Яна на працягу апошніх трох гадоў рамонту святыні была разам з парафіянамі асаблівым чынам. "Таму сёння, наша Мамачка, мы хочам Табе падзякаваць не толькі за рамонт, але за тое, што Ты апякуешся Глыбоцкай парафіяй на працягу гісторыі. Таму прымі Марыя ад нас гэтыя сціплыя кветкі, няхай яны радуюць Тваё Беззаганнае Сэрца".

Кс. Мікалай разам з міністрантамі накіраваліся ў капліцу да абраза Маці Божай, дзе былі пастаўлены кошык белых руж, а потым ад імя ўсёй супольнасці пробашч прысвяціў Глыбоцкую парафію Беззаганнаму Сэрцу Марыі:

"Найчысцейшая, Беззаганна Зачатая, наша Нябесная Мама! (...) Мы аддаёмся пад Тваю апеку, Марыя, і прысвячаем сябе Табе, каб Ты кіравала нашым жыццём, нашымі сэрцамі. Каб Ты дапамагала нам змагацца з сатаною, каб мы не былі падманутыя ім. Прымі гэтыя кветкі, як дар нашай удзячнасці за Тваю дапамогу не толькі ў матэрыяльным рамонце нашага храма. Няхай Божая святыня і Божае Валадарства ў нашых душах будуюцца пад Тваёй апекай. Усе мы тут прысутныя і ўсе нашыя сем'і Табе давяраем. (...)"

Пасля св. Імшы ў капліцы Маці Божай Падхорнай дзве парафіянкі прысвяцілі сябе Езусу праз Марыю, зачытаўшы і падпісаўшы акт прысвячэння па методыцы святога Людвіка-Марыі Грыньёна дэ Манфора.

***Марына Сінкевіч***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя
"Каталіцкага Весніка"***

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Чаму было дзейсным бласлаўленне Якуба?

**“Адкажыце, калі ласка, чаму было дзейсным бласлаўленне Якуба, хоць ён выманіў яго праз падман у Эзава? ”.**

**Ян**

– Гэтае пытанне закранае некалькі аспектаў, але найперш тое, ці сапраўды быў падман, і якая ступень віны ў гэтай сітуацыі чалавека, а якая тут педагогіка Божай вернасці абяцанням, нягледзячы на людскі грэх... Запрашаю яшчэ раз зірнуць на сітуацыю і абставіны, што суправаджаюць біблійнае апісанне дадзенай падзеі, – гэта Кніга Быцця, 27.

На загад Рэбекі Якуб падмануў Ісаака, выдаўшы сябе за Эзава, і тым самым атрымаў бласлаўленне, якое было прызначана для брата. Сярэднявечная габрэйская экзэгеза, а за ёй і сучасная, праводзіць лінію абароны паводзінаў Якуба, так што амаль не сустракаецца крытыкі яго дзеянняў. Чаму? На гэту тэму напісаны цэлыя тамы доказаў. Істотным, напрыклад, падаецца абвінавачванне не Якуба, а самога Ісаака.

1) Чаму ён дазволіў Рэбецы слухаць сваю размову з Эзавам (Быц 27,5), можа, каб папярэдзіць яе пра свае намеры?

2) Чаму ён зрабіў выгляд, што не можа пазнаць Якуба? Ён мог адрозніваць іх галасы. Ён мог пазнаць Эзава ўжо толькі па адным слове, калі выклікаў яго (Быц 27,1), і ён сапраўды пазнаў голас Якуба: “Голас – гэта голас Якуба” (Быц 27,22).

3) Чаму ён зрабіў выгляд, што змог пазнаць скуру Эзава? Бо, датыкаючыся да Якуба, як Ісаак, мог памылкова прыняць тэкстуру казінай скуры за скуру чалавека?

4) Чаму ён зрабіў выгляд, што не заўважыў адрознення ў прыгатаваным мясе з хатняй жывёлы ад мяса дзічыны?

5) Чаму ён устрымаўся ад бласлаўлення Якуба Абрагамавым бласлаўленнем нашчадкамі і зямлёй (пар. Быц 12,1-3 і Быц 27, 28-29)? Ці, можа, быў гэты адыход ад традыцыйнага спосабу бласлаўлення, іншы, чым Ісаак прадэманстраваў Рэбецы, што ён увесь час ведаў пра яе планы і згадзіўся на іх?

Такое прачытанне матываў герояў дадзенага аповеду можа прывесці да меркавання, што Ісаак загадзя меў намер блаславіць Якуба. Але меў і патрэбу ў апраўданні, каб змякчыць пазнейшы гнеў Эзава, напрыклад, што ён, Ісаак, стаў ахвярай падману. Калі Ісаак быў саўдзельнікам, то гэта таксама тлумачыць, чаму Ісаак мог блаславіць Якуба, нягледзячы на падман. Да таго ж, тыя эпізоды гісторыі, дзе лічыцца, што Якуб хлусіў, могуць быць проста няправільна зразуметыя. Верш, у якім Якуб, здаецца, робіць простую заяву Ісааку, што ён насамрэч Эзаў, можа быць інтэрпрэтаваны па-рознаму. Так, у Быц 27,19 Ісаак пытаецца ў Якуба: “Хто ты, сын мой?”, і Якуб адказвае: “Я Эзаў, першынец твой”. Ключом альтэрнатыўнага разумення тэксту з’яўляецца тое, што адказ Якуба трэба ўспрымаць як два незалежныя дэкларатыўныя выказванні: першае – "я", а другое – “Эзаў – першынец твой”. Таму поўнасцю сэнс выказвання, якое даслоўна перакладзенае, не выяўляе поўнай праўды. Яго разуменне можа быць наступным: я прыношу табе ежу, хоць першынец твой Эзаў.

Таму згодна з традыцыйнай рабінацкай інтэрпрэтацыяй тэксту ў гэтым апавяданні няма падману. Якуб нікога не падмануў, бо першародства па праве належала яму. Рэбека не была вінаватая з-за Божага адкрыцця ёй падчас цяжарнасці (Быц 25,23). Акрамя таго, яна ведала, што Ісаак распазнае голас Якуба, і пакінула яму выбар: бласлаўляць ці не. Ісаак не падманваў, бо шлюб Эзава быў крыніцай смутку да яго (Быц 26,34-35), і Эзаў не выяўляў намеру працягваць бацькоўскай традыцыі. Аднак, паколькі Эзаў быў яго любімым сынам, Ісаак не хацеў пакрыўдзіць яго пачуцці, сказаўшы гэта наўпрост. Ён скарыстаўся магчымасцю, якая была прадстаўлена яму, і блаславіў Якуба замест Эзава. Калі хтонебудзь выкарыстоўваў падман, дык гэта Эзаў, які не паведаміў свайму бацьку аб продажы свайго першародства, калі яго бацька згадваў, што ўдзеліць яму сваё самае важнае бласлаўленне.

Апавяданне ў Быц 27 уключае ў сябе вельмі складаную сітуацыю, у якой іграюць свае ролі чатыры адрозныя персанажы. Зразумеўшы іх матывы, аднак, перш за ўсё мы павінны ўлічваць характар апавядання Торы. Тора – гэта не кніга ў сучасным разуменні. Яе шматлікія пласты сэнсу прызначаны для вывучэння на працягу ўсяго жыцця. Ход падзей часта з’яўляецца толькі запрашэннем у больш глыбокае разуменне натхнёнай гісторыі. Так, хоць Эзаў, паляўнічы, адпавядае старажытнаму гераічнаму малюнку і ў такой форме служыць патрэбам свайго бацькі, ён не можа стаяць на лініі патрыярхальнай пераемнасці, гарызонтам якой з’яўляецца дух, а не прырода. Фізічная немач вачэй Ісаака не асляпляе яго для магчымасці пазнання гэтай духоўнай праўды. Ён ведае, для каго прызначана бласлаўленне і хто ў дадзены момант з’яўляецца яго атрымальнікам.

Аднак цяжка адмаўляць і тое, што Тора, хоць не яўна, але рашуча асуджае сам учынак падману Якуба. Папершае, падман, здаецца, быў матываваны няправільным разуменнем намераў Ісаака. Сляпы патрыярх даў тры бласлаўленні сваім дзецям: першае Якубу, які выдаваў сябе за Эзава, другое – Эзаву, а трэцяе – Якубу. Толькі ў трэцім бласлаўленні, калі ён публічна звяртаўся да Якуба, ён даў “бласлаўленне Абрагама табе і нашчадку твайму з табой, каб ты мог атрымаць у спадчыну зямлю, на якой жывеш, якую даў Бог Абрагаму” (Быц 28,4). Ісаак сапраўды меў намер блаславіць Эзава часовай уладай, але бласлаўленне Абрагама – спадчына Святой Зямлі і найважнейшая місія патрыярхаў – патомства – былі зарэзерваваныя за Якубам з самага пачатку.

Па-другое, сам падман, можна сказаць, быў затым Якубам адпакутаваны. Якуб падвяргаецца шэрагу няшчасцяў і іроніі, адносіны якіх да першапачатковага падману не могуць быць выпадковымі. Ён павінен працаваць на свайго “брата” Лабана (Быц 29,15) замест таго, каб яго брат працаваў на яго (Быц 27,37). Ён падмануты пры першай шлюбнай ночы (Быц 29,24-26), а яго сыны падманваюць яго вопраткай Юзафа і крывёю казла (Быц 37,31). Яго адносіны з Эзавам з’яўляюцца якраз супрацьлеглымі тым, якія павінны былі быць дасягнутыя: Эзаў з’яўляецца яго гаспадаром (Быц 32,5.6.19; 33,8.13.14.15). Больш за тое, знясільвальны страх Якуба перад сваім братам вынікае з таго самага акту, які павінен быў усталяваць яго першынства. Такім чынам, існуе дастаткова доказаў, што Якуб павінен быў падвергнуцца шэрагу пакаранняў, каб залагодзіць свой акт падману.

“Ключавое” слова дадзенай сцэны мае корань, які азначае “падмануць” (літары resh-mem-yod רמי). Такая камбінацыя сустракаецца ў Кнізе Быцця тройчы. Першы выпадак той, у якім Ісаак кажа Эзаву, што яго брат падманам узяў яго бласлаўленне (Быц 27,35). Другі – калі Якуб пытаецца ў Лабана, чаму ён яго падмануў (Быц 29,25). Трэці выпадак, у якім Сімяон і Левій падманліва размаўляюць з Сіхемам (Быц 34,13). Гэта, верагодна, мае на мэце паказаць, што Якуб павінен быў “пакаштаваць” падману, здзейсненага сынамі. Ён павінен быў стаць на тым месцы, дзе стаяў яго бацька, калі яго сын Якуб падмануў яго.

Але ў Кнізе Быцця ёсць яшчэ адзін акт сыноўняга падману, падабенства якога з Якубам здаецца беспамылковым. Якуб “шыфраваў” ад бацькі сваю асобу, выдаючы сябе за кагосьці іншага. Аналагічным чынам яго ўласныя пакуты дасягаюць поўні экспіяцыі, калі яго сын Юзаф “шыфруе” сваю асобу і ўдаецца некім іншым, чым ён ёсць насамрэч. Юзаф таксама падманвае бацьку, даючы яму ежу, як Якуб падмануў свайго бацьку, прыносячы яму “смачную ежу”, каторая яму падабалася (Быц 27,7.14.17.25). Дадаткова ў фінальнай канфрантацыі паміж Юзафам і Юдам апошні з’яўляецца відавочна заменнікам Якуба, дзейнічаючы для абароны Бэньяміна in loco parentis (Быц 44,32).



Падсумоўваючы, можна сцвердзіць, што нельга адназначна сказаць пра асобу Якуба і яго чын, праз які ён атрымаў дзейснае бласлаўленне. Логіка Бібліі цудоўна перадаецца Кнігай Ёва 41,2-3: “Хто ж можа выстаяць перад Маім абліччам? Хто апярэдзіў Мяне, каб Мне аддаваць яму? Пад усім небам усё Маё.” Таму ласка Божая і Яго бласлаўленне дзейнічаюць, нягледзячы на людскую слабасць і грахі, прыводзячы чалавека да пакаяння і навяртання.

**Бібліяграфія**

*D. MARCUS, “Traditional Jewish Responses to the Question of Deceit in Genesis 27”/ у: Jews, Christians, and the Theology of the Hebrew Scriptures, рэд. A.O. BELLIS, J.S. KAMINSKY, Atlanta, GA 2000, с. 294-305.*

*D. BERGER, Cultures in Collision and Conversation: Essays in the Intellectual History of the Jews, Boston, MA 2011, 236-250.*

*J.A. DIAMOND, Jewish Theology Unbound, Oxford 2018, 36-40.*

*J. ANDERSON, Jacob and the Divine Trickster: A Theology of Deception and YHWH’s Fidelity to the Ancestral Promise in the Jacob Cycle, Winona Lake, IN 2011, 160-171.*

*C. FRANK, “Dominion, Guilt, and Reconciliation: The Contribution of the Jacob Narrative in Genesis to Political Ethics”, у: Semeia 66/1994, 67–77.*

*Genesis Rabbah: The Judaic Commentary to the Book of Genesis, A New American Translation, vol. III, Parashiyyot Sixty-Eight through One Hundred, on Genesis 28:10 to 50:26, Atlanta, GA 1985.*

***Кс. Валерый Марціноўскі***
*доктар тэалогіі*

## *Відэафакты*

### Працэсія афрыканскіх вернікаў ва ўрачыстасць Хрыста Валадара

21 лістапада Каталіцкі Касцёл перажываў урачыстасць Хрыста Валадара сусвету.

Прадстаўляем Вашай увазе відэа, на якім каталікі Сьера-Леонэ ідуць ва ўрачыстай працэсіі.

Напярэдзе бачна, як Найсвяцейшы Сакрамант нясе беларускі салезіянскі святар Сяргей Гоман, які ўжо дваццаць гадоў служыць у Афрыцы.

Адсканудйце QR-код сваім смартфонам, каб паглядзець відэа.



### Гістарычнае пакаянне за грахі абортаў у Навагрудку

З 18 па 21 лістапада прайшло пакаянне нашага народа за грахі супраць жыцця і сям’і ў рамках першага міжнароднага малітоўнага кангрэса, на які прыбылі больш за 80 удзельнікаў з Беларусі і Расіі. Кульмінацыяй стаў зачытаны Акт пакаяння за грахі нашага народа супраць жыцця і сям’і. У гэты час большасць удзельнікаў пакаяння ляжалі крыжам, молячы Бога аб прабачэнні.

Адсканудйце QR-код сваім смартфонам, каб паглядзець відэа.



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**Пазнавайка віншуе сваіх сяброў з Божым Нараджэннем! Святкуй Раства разам з Пазнавайкай.**

**1.** Дапамажы тром мудрацам хутчэй знайсці месца нараджэння Хрыста, каб пакланіцца Яму.



**2.** Анёл абвясціў навіну аб нараджэнні Езуса Хрыста пастушкам, якія вартавалі ўначы свой статак. Прыпомні сабе, як гэта адбывалася і палічы ўсіх авечак і зорачкі на малюнку.




**3.** Пастушкі прыйшлі пакланіцца Езусу Хрысту. Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.





**4.** Святы Мікалай на Раство прыносіць паслухмяным дзеткам падарункі. Ці знойдзеш ты ўсе падарункі ў пакоі?



## Віншаванне ад Пазнавайкі:

Дарагі сябра! Віншуем цябе з Божым Нараджэннем! Жадаем, каб Езус сапраўды нарадзіўся ў тваім сэрцы. Няхай маленькі Збаўца прынясе ў тваё жыццё любоў і супакой, каб ты заўседы мог дзяліцца імі з іншымі!

**Шчаслівых Калядаў!**



*Мастачка:* **Вольга Будкіна;** *ідэя:* **Вікторыя Арфеева**

# Цуды ў Дунілавічах праз заступніцтва Маці Божай Ларэтанскай

**У дунілавіцкім касцёле знаходзіцца абраз Маці Божай Ларэтанскай. Пробашч парафіі распавёў "Каталіцкаму Весніку" некалькі выпадкаў цудоўных здарэнняў, звязаных з гэтым абразом.**

■ Сведчанні запісаў **кс. Віктар Місевіч**

Аднойчы ў закрыстыю прыйшла жанчына, якая ахвяравала Маці Божай шлюбны пярсцёнак. "Што сталася?" – пытаецца пробашч кс. Павел Самсонаў. – Ды вось, ойчанька, маем вялікую праблему ў сям'і: дзеці разводзяцца. Маладая пара ўжо падала на развод. У судзе будзе апошняе пасяджэнне, на якім іх і развядуць. Маці аднаго з сужэнцаў як за апошнюю саломінку ўхвацілася за малітву і вырашыла ахвяраваць пярсцёнак у інтэнцыі ўратавання сям'і.

Праз зусім кароткі час ксяндзу пазванілі. Радасны голас жанчыны ў трубцы кажа: "Кс. Павел, цуд адбыўся! Яны забралі заяву з суда. Маці Божая ўратавала сям'ю!"

"Што сталася далей з гэтай сям'ёй, не ведаю, – прызнаецца ксёндз Павел. – Але ніякіх паведамленняў пра тое, што гэтая сям'я распалася, да мяне не паступала".

Другі цудоўны выпадак звязаны з частай сітуацыяй у сучасных сем'ях, калі сужэнцы не могуць мець дзяцей. Так было і ў гэтай сям'і. Сужэнцы прайшлі ўсіх дактароў, маліліся, але заставаліся бяздзетнымі. І ў такім выпадку дапамагла заступніцкая малітва зямной маці і дапамога Матулі Нябеснай. Старэйшая жанчына прызналася кс. Паўлу Самсонаву, што дзесяць месяцаў малілася сама да Маці Божай Ларэтанскай і маліліся тыя сужэнцы. Праз дзесяць месяцаў малітвы у



маладых бацькоў нарадзілася дзіцятка.

"Тое, што абраз цудадзейны, мы ў парафіі не маем сумневу, – кажа кс. Павел. – Некалькі разоў да мяне прыходзілі вернікі і ахвяравалі дары: хто завушніцы, хто пярсцёнак. На маю просьбу распавесці, за што яны складаюць такія каштоўныя дарункі Маці Божай, сціпла адказвалі: "Ойча, хай гэта застанецца паміж намі і Панам Богам".

# Святая ноч у палоне

**Старая Зоня вельмі любіла дзяцей, хоць сваіх ёй Бог не даў. Яна ведала шмат розных гісторый, казак і любіла распавядаць іх цікаўным малым. У вёсцы на пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя радыё ці патэфон былі толькі ў самых заможных гаспадароў. А да іх проста так не зойдзеш, бо каму патрэбны ў хаце шумныя натоўп суседскіх падшыванцаў... Таму і збіраліся дзеці ў цёткі Зоні, асабліва доўгімі зімовымі вечарамі падчас Адвэнту.**

■ **Нэля Лось**, м. Лынтупы (парафія св. Апостала Андрэя)

Гэту гісторыю распавёў Зоні яе бацька Матэвуш-Нікадэм. Яму давялося ваяваць у Першую сусветную вайну. Здарылася гэта недзе каля Баранавіч ці ў 1914, ці ў 1915 годзе (Зоня добра не памятала).

Абыходзіліся немцы з палоннымі даволі гуманна, аказвалі медыцынскую дапамогу, параненых кармілі тры разы ў дзень. У шпіталі ён спаткаў двух сваіх землякоў са Свянцянскага павета. Усе яны былі католікі...

Набліжалася Божае Нараджэнне. Мужчыны з сумам успаміналі жонак і дзяцей, той радасны настрой, які панаваў у гэты час у роднай старонцы. У Вігілійны вечар змайстравалі яны маленькую елачку, памаліліся. І тут у немцаў зайграла скрыпка: нехта прыгожа выводзіў "Святую ноч". Матэвуш меў добры голас і не вытрымаў – заспяваў. Сябры падхапілі знаёмую мелодыю. На іх пачалі сварыцца, што прыйдзе ахова і ўсіх перастраляе. Але салдаты з аховы падхапілі спеў, спявалі і немцы ў казарме. Дзверы ў памяшканні, дзе знаходзіліся параненыя, адчыніліся, увайшоў нямецкі святар, пастар. На ламанай рускай мове ён прапанаваў памаліцца. Маліліся ўсе, кожны на сваёй мове. Натоўп змучаных, параненых людзей у адзіным парыве звяртаўся да Нованароджанага Езуса, да Слова, што сталася Целам і прыйшло ў гэты жорсткі свет, прасілі аб любові і міласэрнасці да сябе і сваіх родных, якія чакаюць іх жывымі дамоў.

Не ўсім пашчасціла вярнуцца з той вайны, на якой загінула больш за дзесяць мільёнаў ваенных і дванаццаць мільёнаў мірнага насельніцтва. А яшчэ мільёны засталіся калекамі, зведаўшы на сабе розныя ваенныя навінкі: танкі, газ іпрыт, агнямёты і інш. А вось Матэвуш, прайшоўшы вайну і палон, вярнуўся на радзіму.

Зоня казала, што кожны год у Вігілійны вечар бацька ўспамінаў тое свята Божага Нараджэння ў палоне, калі хрысціяне розных канфесій аб'ядналіся ў Целе Хрыстовым.

Прайшло шмат часу з тае пары, але людзей, што цярпяць ад войнаў, прыродных катаклізмаў, хваробаў, голаду, гвалту над чалавечай годнасцю і духоўнымі каштоўнасцямі, не становіцца менш. І Нованароджаны Езус, як заўсёды, чакае ад грамадскай супольнасці маральнасці, аб'ектыўнасці, справядлівасці ў спрадвечнай барацьбе дабра і злога.



Лынтупы. Від на рынкавую плошчу з касцельнай вежы падчас кірмаша, 1916 год

# Каляндар на студзень 2022

**1 студзеня – Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.**

**3 студзеня – успамін Найсвяцейшага Імя Езус.**

**6 студзеня – Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Тры Каралі).**

**13 студзеня – успамін Св. Гілярыя, біскупа і доктара Касцёла.**

**17 студзеня – успамін Св. Антонія, Абата.**

**20 студзеня – успамін Св. Фабіяна, папы і мучаніка.**

**21 студзеня – успамін Св. Агнешкі, панны і мучаніцы.**

**22 студзеня – успамін Св. Вінцэнта, дыякана і мучаніка.**

**24 студзеня – успамін Св. Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла.**

**25 студзеня – свята Навяртання Св. Паўла, апостала.**

**26 студзеня – успамін Св. Цімафея і Ціта, біскупаў.**

**27 студзеня – успамін бл. Юрыя Матулевіча, біскупа.**

**28 студзеня – успамін Св. Тамаша Аквінскага, святара і доктара Касцёла.**

**29 студзеня – успамін бл. Баляславы Марыі Лямэнт, панны.**

**31 студзеня – успамін св. Яна Боска, святара.**



## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – А; 3 – Б; 4 – А; 5 – Б; 6 – А; 7 – В; 8 – В; 9 – Б; 10 – В


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ6308

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.12.2021 г. у 7.30

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь